PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (2115) Год XLI Беласток 24 лістапада 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Чароўнасць лістападаўскай ночы.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

Сакрат Яновіч

# Спроба дэфініцыі беларуса

Прыглядаючыся, што адбываецца ў беларускім жыцці, насоўваецца толькі адно на думку: робім усё магчымае і, нават немагчымае, каб прапасці як нацыя! Мову сваю мы ўжо, практычна, пахавалі, калі ўзважыць яе бесперспектыўе ў неабавязковым навучанні. Тыя ж дзеці, што цяпер тлумна гавораць папольску ў нас — і па-руску там — на ўроках беларускага прадмета, праз дзесяць-дваццаць гадоў будуць дарослымі і напладзяць сваіх дзяцей, у якіх і след у духоўную спадчыну ім не застанецца ад беларушчыны. Эх, прыемна ўспомніць гады зеніту ў нашых БГКТ і „Нівы”: тадышнія партыйцы ў гэтых установах рэгулярна і з агнём у вачах давалі адпор *беларускім нацыяналістам!* А ўцалелых тых *нацыяналістаў* даканалі потым *праўдзівыя палякі*. A szczególnie prawosławni Polacy.

Шматгадовая, а фактычна адвечная, барацьба з *беларускім нацыяналізмам* закончылася вось тым, што сёння даводзіцца пераможцам над ім адратоўваць апошніх яго адэптаў і недабойкаў. Не столькі дзеля літасці або захавання ў прыродзе такога чалавечага падгатунку, колькі ў імя акурат актуальных палітычных інтарэсаў нядаўніх каланізатараў. Гэты парадокс тлумачыцца зусім проста: патрэбна *беларуская карта* ў міжнародным покеры. Не надта вялікая, каб, крый Божа, не выслізгнулася з рук ды не пачала сама гульню... Найлепей безамбітная і з па-фальклорнаму дэбільнымі мазгамі. Пажадана ў пафп’яным *відзе*.

У суверэннай і незалежнай Рэспубліцы Беларусь пакуль што не дадумаліся да таго, заядла ліквідуючы беларускае школьніцтва, як і некалі ў нас, рукамі саміх, па-мужыцку прагматычных, беларускіх бацькоў. Напрыклад — у сталічным Менску ў параўнанні з мінулым навучальным годам лік беларускамоўных першакласнікаў рэдукавана амаль у **пяць** разоў! З кожных дзесяці — усяго адзін неяк ходзіць на беларускія ўрокі. Пра сярэднія і вышэйшыя — няма чаго і заікавацца: татальна расейскія яны. Вядома, чаго варта нацыя без нацыянальнай школы. I o to właśnie chodzi! — аналагічна прагаварыўся ў запале мой антаганіст.

Тым часам у менскіх дэпартаментах не навальна *лыкам шытыя*. Усё больш паяўляецца тых, хто глыбей думае. А таксама еўрапейская сітуацыя прымушае штораз адказваць на роспыты пра ліквідацыю беларускасці Беларусі,ператварэнне яе ў правінцыйную паддзяржаву рускіх. На шчасце рэжыму — гэта той рэдкі выпадак, калі і махляваць не трэба: даволі даць стандартную свабоду тым жа *белорусским националистам*. Іх так мала, што рызыкі ад таго даслоўна аніякае. Карысці затое шмат. Дзякуючы іх жа прастадушнаму ідэалізму ды ахвярнасці, улады маюць палёгку: з чыстым сумленнем могуць абурацца закідамі ў антыбеларускасці. *Разве запрещается у нас говорить на белорусском языке, читать белорусские книги, учить на национальном детишек?! Конечно нет! Но в нашем демократическом государстве одновременно не может быть и принуждения к так называемой **мове**...* Амерыканцу — скажам — падасца такое цалкам лагічным. Ён не прадчуе ў гэтым вырак смерці беларушчыне. А яно якраз так, як і ў нас, дзе ў Беластоку на **сто** беларускіх сем’яў раптам у **двух** gadają po rusku, а ў мястэчковых ліцэях вучні лічаныя на пальцах аднае рукі coś tam kapują w tym języku. Чаму не, танцаваць і спяваць ахвотныя яны, і касету купіць, але ўжо не (беларускую) кніжку, падставу падстаў нацыянальнай культуры (кожнага народа). Гэта відаць, зрэшты, па мізэрным тыражы „Нівы” і нават — пераважна польскамоўнага „Czasopisa” (po co to Polakowi?). Відаць і па літаратурнай „Белавежы”, у якой

***(працяг на стар. 4)***

Мікола Ваўранюк

# Бар пад бярозай

Любіў я ў дзяцінстве ездзіць з бацькам у нашу вясковую краму. Цікава было, аблізваючы ледзянец, назіраць мужчынскую цырымонію піцця піва. Падключалі яны да невялікай металёвай бочкі шланг, абеўруч бралі такую помпку, якою пампуюць воз-балон, некалькі разоў нажымалі зверху ўніз, адкручвалі медны кранік і ў шкляны куфаль уліваўся пеністы жаўтаваты напой.

Потым у краме прапала піва з бочкі і, наогул, усякае піва. Зрэдчас з’яўляўся яго сурагат ГСаўскай вытворчасці, у белых бутэльках, закрытых пластмасавымі пробкамі, якія стралялі быццам цацачныя пістоны. У краме пераспалі збірацца статныя гаспадары. А выпівохі выносілі на паплавок яблычнае віно.

У мае гімназічныя гады піўныя ў гарадах, такія як хаця б на Крынічнай у Бельску ці Пралетарыяцкай у Гайнаўцы, выклікалі жах. Кіслы сікунна-ванітны смурод і частыя мардабоі прымушалі прыстойных людзей пераходзіць у тых месцах на другі бок вуліцы. Але гэтыя акалічнасці мелі і станоўчы ўплыў на ўзгадаванне амбітнай моладзі — дазволілі рассмакавацца ў сухім мадзьярскім і балгарскім віне. Тым не менш, выспетая на багажніку ровара дзіцячая мара пра дарослосць не магла здзейсніцца.

І толькі апошнія гады прынеслі ў справе піва заўважальныя станоўчыя змены. Спачатку паявілася яго ўдоваль у бутэльках, потым, дзеля разнавіднасці — у бляшаных банках, нарэшце вытворцы і прадаўцы вярнуліся да найбольш класічнай і высакаякаснай упакоўкі — бочкі. Няма ўжо ў нас, бадай, большай вёскі, у якой спякотным днём не можна было б патушыць смагі халодным півам з крана. А бывае і выбар між канкурэнтнымі броварамі. На Беласточчыне за першынство і нашы кашалькі спаборнічаюць беластоцкія „Дайліды” з Ломжай. Калі ў вёсцы больш чым адна крама, дык, як правіла, знойдуць сваё месца абедзве гэтыя фірмы.

Піўныя бары найчасцей абсталяваліся ў заняпалых ГСаўскіх крамах, у заглухлых вясковых клубах, часамі адзін побач аднаго. Арандатары гэтых аб’ектаў пазбівалі і пасклейвалі рэштк старой мэблі, насценныя лішаі абдзертай фарбы прыкрылі рэкламамі кока-колы і цыгарэтаў „Марс” ды ўзяліся за пенны бізнес. З думкай пра хуткі і лёгкі нажытак.

Дыяметральна розныя прыклады прадпрымальніцтва даюць уласнікі новага тыпу гандлёвых пунктаў. А менавіта тыя, што пабудавалі краму на сваім панадворку, ці нават дзеля гэтага перарабілі частку дома. Калі ім павязло, відаць, як іхнія крамы мяняюцца, як разбудоўваюцца, прыгажэюць. Піва, гэта важны тавар і разумныя ўласнікі кра-

***(працяг на стар. 10)***

# Мы прачыталі

*Трэба прызнаць, што ў папулізме Лукашэнка дасягнуў значнага майстэрства. Ён няблага спазнаў псіхалогію эксСавецкага чалавека і выкарыстоўвае яе ў сваіх мэтах.*

Беларус, н-р 438

Прэзідэнта хваляць нават у імперыялістычнай прэсе.

* * *

*Zwracając się za pośrednictwem rządu do rodaków z okazji obchodzonego 2 listopada na Białorusi Dnia pamięci przodków, prezydent Republiki Aleksander Łukaszenka zaapelował o powrót do chrześcijańskich wartości i tradycji, widząc w prawosławiu drogę do duchowego odrodzenia narodu. Prezydent dał jasno do zrozumienia, że chrześcijaństwo powinno stać się ideologią państwową kraju. Opozycja podczas demonstracji w Kuropatach szła z transparentem: „Boże! Wybaw nas od Łukaszenki!"*

Kurier Poranny, nr 258

* * *

*Простыя людзі хочуць спакойна жыць і нармальна працаваць,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

*Раіцца з народам — і права, і абавязак прэзідэнта,* — піша прэзідэнцкая газета

Звязда, н-р 261

Кансультацыя з народам асабліва патрэбная ў галіне канстытуцыйнага права.

* * *

*Pielęgniarka Michaela Jacksona, Debbie Rowe powinna w lutym przyszłego roku urodzić słynnemu piosenkarzowi syna. Gwiazdor nie zamierza jednak poślubić Debbie, chciałby jednak, aby niemowlę zostało ochrzczone przez papieża Jana Pawła II. Potomek miałby nosić imię Michael Jackson II.*

Kurier Poranny, nr 258

* * *

*Nikt dokładnie nie wie ile dzikich zwierząt żyje w naszych lasach. Strzelają do nich myśliwi i kłusownicy.*

Gazeta w Białymstoku, nr 256

Адны браканьеры дзейнічаюць легальна, другія — нелегальна.

* * *

*Mimo ciągłych ustępstw ze strony władzy państwowej strona kościelna stosuje wobec niej wyłącznie wychowawczą metodę kija. Żadnej marchewki w postaci bodaj werbalnego szacunku dla partnera, który coraz częściej przyjmuje postawę wasalną. Po uchwaleniu ustawy liberalizującej prawo do aborcji, posłom dorobiono gębę „zabójców narodu".*

Polityka, nr 44

* * *

*Białystok ma szansę wnieść duży wkład w teorię pornografii. Zdaniem białostockich działaczy katolickich pornografią jest wszystko, co wywołuje podniecenie.*

Kurier Poranny, nr 259

* * *

*Parlamentarzyści — mówię to z całą odpowiedzialnością — są to zbrodniarze. Pytam: komu służą parlamentarzyści? Służą zorganizowanemu złu. To widać gołym okiem, że zło jest sterowane. To są siły światowe. W parlamencie zasiadają obcy najemnicy,* — сказаў ксёндз Рыдзык, дырэктар „Радыё Марыя".

Kurier Podlaski, nr 213

* * *

*Wspólnota Polska organizowała najróżniejsze imprezy kulturalno-szkoleniowe, m.in. festiwal polonijnych zespołów folklorystycznych, forum oświaty polonijnej, zlot młodej Polonii, olimpiady literatury i języka, zjazdy polonijnych lekarzy, nauczycieli, dziennikarzy, a nawet polonijne mistrzostwa świata w piłce nożnej. Za fundusze Wspólnoty zbudowano Domy Polskie w Grodnie, Cierlicku, Baranowiczach, Nowym Sołońcu, a wykupiono w Paltinosie, Mohylewie, Druskiennikach, Kiemieliszkach, Bielcach i Olbrachcicach. Zbudowano szkołę w Wilnie, Chmielnickim, Dyneburgu, Szumsku, we Lwowie, w Grodnie. Wspólnota Polska jako organizacja społeczna, otrzymała faktycznie spory majątek państwowy i corocznie zasilana jest z budżetu państwa — w 1996 r. sumą 13,5 mln nowych złotych... 80% wydatków lokowanych jest na Wschodzie... W Radzie Krajowej Wspólnoty przeważają osoby duchowne, działacze towarzystw kresowych. Panującą tu opcję polityczną określa się jako zbliżoną do ZChN.*

Polityka, nr 44

* * *

*Wczytując się w program wyborczy tzw. prawicy, można odnieść wrażenie, że komunizm dopiero nadejdzie po przyszłorocznych wyborach wygranych przez ROP — AW „S" — PSL. Władzę obejmie lud pracujący miast i wsi reprezentowany przez związki zawodowe. W wyniku powszechnego uwłaszczenia każdy Polak z wyjątkiem Żydów i masonów otrzyma kawałek linii kolejowej, poczty i urzędu gminy. Podniesie się podatki, by mogły wzrosnąć płace... Spełni się proroctwo Henryka Goryszewskiego: Polska będzie biedna, ale katolicka.*

Wprost, nr 44

* * *

*Prawie połowa Japończyków boi się śmierci z przepracowania. Jeszcze większa liczba boi się, że nie znajdzie miejsca na cmentarzu. 50—80 cm kw. powierzchni ziemi na cmentarzu miejskim kosztuje 25 tys. dolarów.*

Magazyn—Gazeta, nr 43

# З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч**, які нанёс афіцыйны візіт у Маскву, выказаўся за заключэнне поўнага дагавору паміж Расеяй і НАТО ў імя еўрапейскай бяспечнасці. Сказаў ён, што пашырэнне НАТО прынясе карысць не толькі Польшчы, але і Расеі. На яго думку, пагадненне Расеі і НАТО пацвердзіла б важную ролю Расеі ў пытанні пабудовы еўрапейскай бяспекі. Расіяне павінны выканаць некаторы высілак зразумення, што цяперашняе НАТО не нясе з сабой пагрозы, паколькі ў адваротным выпадку будзе пагражаць ім самаізаляцыя. Шэф польскага ўрада рашуча выказаўся за прысутнасцю Расеі ў Еўропе. Дадаў ён, што гэтая краіна павінна да НАТО ставіцца як да партнёра, а не агрэсара.

**Унія працы** выказваецца за канчатковай дэлегалізацыяй і забаронай дзейнасці ў Польшчы партый расісцкага і фашысцкага характару. Пасол Сейма **Артур Смулка** заявіў, што ягоная партыя будзе прапанаваць, каб у канстытуцыю занесці артыкул аб забароне дзейнасці такіх партый, як гэта зроблена ў шэрагу канстытуцый еўрапейскіх дзяржаў.

**Far-Medic '96** — IV Міжнародны фармацэўтычна-медыцынскі кірмаш адбыўся ў Беластоку. Удзельнічала ў ім больш за пяцьдзесят экспанентаў з Польшчы, а таксама бізнесмены і лекары з Беларусі, Расеі і Літвы. **Уладзімір Карагін** — старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў — заявіў, што дзякуючы беластоцкаму кірмашу да гэтай пары праведзена каля трыццаці супольных польска-беларускіх мерапрыемстваў. Беларускі саюз прадпрымальнікаў прысудзіў свае ўзнагароды фірмам „Polfa" з Жэшава і „Cezal" з Беластока, а Беларуская прамыслова-гандлёвая палата — супольцы „Zasada Group" і фірме „Biomed" з Любліна.

**Міжнародны танцавальны конкурс** упершыню адбыўся ў Беластоку. Два дні працягваліся спаборніцтвы, у якіх удзельнічала больш за 600 танцораў з усёй Польшчы, а таксама пары з Гродна і Калінінграда. У склад журы конкурсу ўваходзіў **Дзмітры Каракулаў** — харэограф з Гродна.

**Беластоцкія прадпрымальнікі** намерваюцца пабудаваць гандлёвы цэнтр — самы вялікі аб'ект такога тыпу на ўсход ад Віслы. Улады горада Беластока абяцаюць дапамагчы ў ажыццяўленні гэтай ідэі і 26 лістапада будзе падпісана адпаведнае пагадненне з Гандлёва-прамысловай палатай.

**Прэзідыум Беластоцкага рэгіёна „Салідарнасці"** пратэставаў супраць рашэння беластоцкага ваяводы аб ліквідацыі пашпартных бюро ў дзевяці гмінах ваяводства. Прафсаюзныя дзеячы лічаць гэтае рашэнне чарговым доказам цэнтралізацыі ўлады і патрабуюць яго адмены.

**У Беластоцкім ваяводстве** баставалі паліцыянты і лекары. Паліцыя патрабавала ад урада павышэння заработнай платы да ўзроўню заробку прафесійных салдат. З гэтай мэтай арганізаваны быў пікет. Лекары ў сваю чаргу дамагаюцца ўвядзення новых прынцыпаў страхавання і павелічэння бюджэту на службу аховы здароўя. У знак пратэсту медыкі не выдавалі пацыентам бальнічных бюлетэняў на бланках L-4.

**Улады Супраслі** спадзяюцца ў наступным годзе прыдбаць мястэчку статус курорта. Заява з камплектам дакументаў знаходзіцца ўжо ў Міністэрстве здароўя, распрацаваны таксама праект статута курортнага горада. Супрасльскі мікраклімат карысны пры лячэнні хвароб сэрца, а лекавыя гразі — пры рэўматычных захворваннях.

## Неўзабаве ў „Ніве"

☛ **Куды вядзе Беларусь прэзідэнт Лукашэнка**
– задумоўваецца Юры Весялкоўскі.

☛ **Які смак рэнскага віна**
– пішуць Ганна Кандрацюк і Аляксандр Максімюк.

# Весткі з Беларусі

**Кансультатыўны рэферэндум**

Вердыкт Канстытуцыйнага суда Беларусі з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае, — так старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня пракаменціраваў спробы іншага тлумачэння заключэння КС аб адпаведнасці канстытуцыі і законам пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня г.г. аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму. Заявіў ён, што ў канстытуцыі Беларусі не вызначана працэдура ўнясення змяненняў і дапаўненняў у канстытуцыю праз рэферэндум. На думку суда, механізм іх прыняцця павінен быць заканадаўча ўрэгуляваны. Сказаў ён, што суд не абмяжоўвае права прэзідэнта раіцца з народам, але на кансультатыўнай аснове.

**Самаўладны прэзідэнт**

У сувязі з тым, што Вярхоўны Савет не зацвердзіў тэкст праекта змяненняў і дапаўненняў у канстытуцыю, вынесенага на агульнарэспубліканскі рэферэндум прэзідэнтам, ім самім быў падпісаны ўказ аб зацвярджэнні новай рэдакцыі канстытуцыі з улікам усенароднага абмеркавання.

**Датэрміновае галасаванне**

Ужо некалькі дзён у рэспубліцы праходзіць галасаванне па пытаннях рэферэндуму. Аднак да 13 лістапада галасавала адносна невялікая колькасць грамадзян (яны маюць права галасаваць да 24 лістапада). Але ёсць і станоўчыя прыклады. У Брэсцкім пагранічным атрадзе, у якім у свой час служыў афіцэр Аляксандр Лукашэнка, на выбарчым участку прагаласавалі ўжо дзесяткі афіцэраў, прапаршчыкаў і воінаў тэрміновай службы. Яны 24 лістапада будуць у водпуску.

**Нявыгадны Ганчар**

Прэс-служба Прэзідэнта РБ востра пакрытыкавала старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара, які стаіць на пазіцыі, што вынікі рэферэндуму маюць кансультатыўны, а не юрыдычны характар. „Палітычная актыўнасць Віктара Ганчара, — чытаецца ў паведамленні, — хутчэй за ўсё звязана з тым, што ён да гэтага часу з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета. Гэта несумненна пазбаўляе яго аб'ектыўнасці і надае недапушчальную палітызаванасць публічным заявам. Усё гэта не садзейнічае стварэнню рабочай атмасферы ў Цэнтрвыбаркаме, а ў выніку перашкаджае дэмакратычнаму выяўленню грамадзян на ўсенародным рэферэндуме".

**Пагадненне аб перасяленцах**

Расея і Беларусь падпісалі двухбаковае пагадненне аб рэгуляванні працэсу перасялення і абароне правой перасяленцаў. Галоўная мэта пагаднення — скаардынаваць нацыянальнае заканадаўства адносна эмігрантаў. Асноўны акцэнт зроблены на забеспячэнне перасяленцам магчымасці свабодна валодаць, карыстацца і распараджацца жыллём і іншай маёмасцю, пакінутай пры выездзе на пастаяннае месцажыхарства ў іншую рэспубліку.

**Дазвол на святкаванне**

Дазвол на ўскладанне кветак да помніка Леніну на плошчы Незалежнасці і правядзенне мітынгу ў парку імя Горкага 7 лістапада выдаў Менскі гарвыканкам шэрагу партыяў і руху левага толку. Ні на якія шэсці і дэманстрацыі гарадскія ўлады дазволу не давалі.

**Ёдаваная соль**

Кансультант па лініі арганізацыі Аб'яднаных Нацый UNICEF наведаў Мазырскі сольскамбінат. Спадар Франс Клаасін прадстаўляе фонд па прапагандзе ведаў сярод насельніцтва забруджаных раёнаў Чарнобыльскай зоны. І хоць недастатак ёднага сярод жыхароў Беларусі выкліканы не тэхнагеннай катастрофай, а прыроднымі фактарамі, усё ж UNICEF мае намер фінансаваць праект накіраваны на яго ліквідацыю. Мэта візіту спадара Клаасіна ў Мазыр — азнаямленне з класічнымі магчымасцямі сольскамбіната ў вытворчасці ёдаванай солі.

**Народныя дружыны**

У Баранавічах зноў створаны гарадскі штаб добраахвотных народных дружын. Такое рашэнне прыняў гарадскі выканаўчы камітэт для ўмацавання дысцыпліны, правапарадку і захавання дзяржаўнай маёмасці. У застойныя часы народныя дружыны аказвалі праваахоўным органам значную дапамогу ў падтрыманні грамадскага парадку. Цяпер зноў успомнілі пра іх, тым больш што на іх утрыманне не патрабуюцца грошы, а толькі да водпуску прыплюсоўваецца некалькі дзён адпачынку.

# У чарзе за каўбаскай

Два разы ў тыдзень прыязджае ў Чаромху аўтамабіль з прыватнага мяснога прадпрыемства з Цеханоўца, што за Сямятычамі. І хоць у пасёлку хапае мясных вырабаў у сваіх. мясцовых гандляроў, прадпрымальнік з Цеханоўца сярод чыгуначнікаў знайшоў многіх пастаянных кліентаў. Справа ў тым, што мясныя вырабы з Цеханоўца намнога таннейшыя як у чаромхаўскіх крамах. А гэта важнае чалавеку ва ўмовах рыначнай эканомікі. Я нават стаў кліентам гэтага прадпрымальніка.

Каб купіць нешта таннейшае і „лепшае" трэба да аўтамабіля намнога раней у чаргу паехаць.

У пачатках лістапада я ўжо а палове шостай раніцы быў каля рыначка. Аднак я не быў першым. Там ужо чакаў мой добра знаёмы 83-гадовы дзядуля Юзэф В. Стоячы ля крамы, успамінаем мінулае.

— У васьмідзесятых гадах выстройваліся чэргі, — кажу я, — ды крамы пустыя былі. Чалавек купляў усё, што траплялася, бо ў кішэні грошы былі. А зараз трэба ў чарзе стаяць, каб нешта таннейшае купіць першаму, бо ў кашалёчку не хапае...

— Мой пакойны татулька так калісьці казаў: — прадаўжае гаворку мой субяседнік, — каб выспаведацца ў касцёле, трэба будзе з пятнаццаць разоў навокал плябаніі пабегаць, каб ксёндз пакуту табе адпусціў... Будзеш паклоны нізка біць свайму пану...

— Да таго і дажываем, — кажу я.

— Ці гэта магчыма, — кажа пан Юзік, каб наш ЗДЗ пусты стаяў? Пры камуне людзі будавалі. Работу мелі, а зараз ужо хуліганы агароджу разбіраюць. З канторы краму зрабілі, а майстэрні пустыя стаяць.

Чалавеку душа разрываецца, гледзячы на такі балаган. Ды каму ж паскардзіцца, калі ўсюды тое ж самае бачыш?

Доўга мы яшчэ „палітыкавалі". Наступныя кліенты прыйшлі да цехановецкага аўтамабіля. Гандляры пачалі раскладаць свае тавары. Пачынаўся новы дзень, дзень халоднага дажджавога надвор'я і патрачанай нашай надзеі на лепшую будучыню. Бо мой субяседнік (і я таксама) патраціў увесь аптымізм, што лепш калісьці нам будзе.

**Уладзімір Сідарук**

# Залаты юбілей

У нядзелю 10 лістапада трыццаць пар з Бельска-Падляшскага і Бельскае гміны былі ўзнагароджаны медалём „За 50-годдзе сямейнага сужыцця". Медаль, па прапанове мясцовых самаўрадаў, прысуджае прэзідэнт Рэчы Паспалітай.

— Калі я, якому далёка яшчэ да пяцідзесяці, стаю перад вамі, адчуваю вялікае хваляванне, — прывітаў сабраных бурмістр Андрэй Сцепанюк, — таму не буду гаварыць доўга. Скажу толькі: дзякуй за тое, што вы зрабілі для горада, для сваіх вёсак, для нашага грамадства. Жадаю, каб усе мы ў добрым здароўі сустракаліся пры нагодзе чарговых юбілеяў.

Урачыстасць праходзіла ў зале Раённай управы ў Бельску, куды, апрача саміх юбіляраў, прыбылі іх сем'і: дзеці, унукі, праўнукі. Мігацелі ўспышкі фотаапаратаў, між заставленымі салодкімі і безалкагольнымі напоямі сталамі сноўдалі людзі з відэакамерамі, з рук у рукі перадаваліся вялікія букеты кветак (найбольш — чырвоныя ружы). Зала праспявала „Sto lat", пасля чаго прагучаў „Вясельны марш" Мендэльсона (зважаючы на абставіны 1946 года, для некаторых пар, пэўна, упершыню).

Мясцовыя ўлады прышпілілі медалі, пачаставалі шампанскім і прапанавалі гадзінны канцэрт двух бельскіх калектываў, адным з якіх была вядомая беларуская „Маланка". Сціплыя падарункі фундавалі таксама некаторыя бельскія прадпрыемствы. Малачарня, напрыклад, кожнаму сужонству ахвяравала пакет масла, смятаны ды іншых малочных прадуктаў.

Хтосьці калісьці сказаў: „На Русі, каб нечага дабіцца, трэба жыць доўга". Напэўна тыя словы спраўдзіліся ў гэтым канкрэтным выпадку — каб быць узнагароджаным самым палітычна нейтральным медалём, трэба жыць доўга і не аднаму, а з другой асобай.

**(ак)**

*Фота Міколы Ваўранюка*



# Пад новым сцягам

8 лістапада г.г. у Гарадку наладзілі школьнае свята. Школа атрымала доўгачаканы сцяг. Асвяцілі яго тры мясцовыя святары: бацюшкі і тамашні ксёндз. Ужо раней школе прысвоена патронаў, братоў-партызанаў Хжаноўскіх з падгарадоцкага Дзернякова. У сувязі з тым гарадоцкія вучні і настаўнікі падрыхтавалі „партызанскі" рэпертуар і такі ж інтэр'ер. Самым урачыстым момантам гарадоцкага свята было прысваенне залатога медаля заслужанай дзяячцы Саюза польскіх настаўнікаў сп. Ніне Маркевіч. Шматлюдная публіка, якую складалі настаўнікі, гарадоцкія знакамітасці, госці з Кураторыі асветы і найлепшыя вучні, энтузіястычна ўспрымала гэтую ўзнагароду. Пасля афіцыёзу гасцей чакаў салодкі пачастунак. **Г. К.**

# Такіх нам трэба!

У Беластоку пры вуліцы св. Роха 13/15 працуе магазін гатовага адзення „Rita Collection". У ім жанчыны знойдуць усё, што патрэбнае для вопраткі. Абслуга тут даволі ветлівая, а і сам прадпрымальнік дбае пра сваіх кліентаў. Вось што гаворыць жыхарка Дайлідаў Аліна С.

— Два гады таму я рабіла пакупку ў гэтай краме. Персанал ветліва абслужыў мяне, а калі я пакідала магазін, мне ўручылі „карту кліента", якая гарантавала, што пры наступнай пакупцы мне будзе належыцца 4% скідкі ад цаны закупленага тавару. У палове лістапада г.г. мне зноў спатрэбілася заглянуць да „сваіх" гандляроў.

Прадпрымальнік з прадаўшчыцай не толькі пазналі мяне як свайго кліента, ды так заахвоцілі, што я зноў купіла тут патрэбнае адзенне. А калі я падала сваю „карту кліента", мне зрабілі скідку каля паўмільёна старых злотаў і ўручылі ўжо „залатую" карту, якая прадугледжвае ўжо не чатыры, а пяць працэнтаў скідкі.

Як бачым, ёсць яшчэ сярод гандляроў добрасумленныя людзі, якія дбаюць не толькі пра грошы, але і пра сваю рэпутацыю. І такіх нам гандляроў трэба! **(ус)**

# Дбайце пра здароўе

Кожны, хто працуе і згодна з законам плаціць падаткі, амаль 70 працэнтаў свайго прыбытку (разам з ЗУСам) аддае ў распараджэнне ўраднікам. Апрача непазбежных у кожнай дзяржаве выдаткаў на армію, паліцыю, адміністрацыю, польскі падаткаплацельшчык фінансуе таксама асвету, культуру, ахову здароўя і ўтрыманне пенсіянераў. Велічыня падаткаў і абавязваючае сацыяльнае забеспячэнне гарантуюць між іншым дарэмнае карыстанне паслугамі медыцынскага характару. Але кожны, хто ў якой-небудзь форме меў кантакт са службамі аховы здароўя, мог пераканацца, што з яго падаткаў не ўсё было аплачана. Калі хто шануе сваё здароўе, вымушаны несці дадатковыя кошты.

На сваім прыкладзе я мог пераканацца, што беспячней заплаціць таму самому лекару ў яго прыватным кабінеце, чым рызыкаваць дармовыя паслугі ў раённай амбулаторыі, дзе ён акурат працуе. Калі шэсць гадоў таму я страціў прытомнасць у дзяржаўнай амбулаторыі падчас усгаранення зуба, з таго часу лёгкай рукою плачу стаматолагу за яго паслугі ў прыватным кабінеце. Тут прынамсі маю надзею, што выйду ад лекара з цэлай сківіцай. Аднак хворыя, якія масава паўцякалі з раённых амбулаторыяў з увагі на якасць тамашніх паслуг, зрабілі апошнім часам натоўп у прыватных кабінетах. Каб паменшыць арэндную плату, лекары наймаюць памяшканні на гарышчах старых дамоў, у падвалах новых. Санітарныя ўмовы, якія там пануюць, у ніякім выпадку не адпавядаюць характару працы лекара. Той жа сам стаматолаг, які яшчэ год таму ў белым фартуху чакаў пацыентаў, сёння ў маленькім калідорчыку трымае чакаючы ягоных паслуг натоўп нешчаслівцаў. Раней, калі толькі развітаўся з адным пацыентам, мыў рукі, мяняў свердзел у бармашыне, клаў у электрычную печку прылады, якімі толькі што карыстаўся і пасля прасіў наступнага. Абавязкова мяняў таксама пластмасавы кубак з вадою для паласкання рота пасля стаматалагічнай працэдуры. Цяпер на ўсё гэта не мае ён часу і, здаецца, ахвоты. Здараецца яму нават забыцца апрануць белы фартух. Ведае, што людзі і так прыйдуць, таму што ў іх няма іншага выбару. Усе яго пацыенты свядомыя таго, што задарма ў амбулаторыі дзіркі ў хворых зубах запхаюць нейкай глінай, якая пасля месяца проста выпадзе.

Мне ў прыватнасці апошнім часам зусім не шанцавала. Выходзячы з балючым, але ўжо атручаным зубам, трапіў я на нейкія неасветленыя сходы, што вялі ўніз з гарышча старога дома, дзе знаходзіўся стаматалагічны кабінет. Ідучы хуткавата, рубануўся я галавою ў нейкае бетоннае скляпенне, што аж зоркі ў вачах паказаліся. Калі я ўваходзіў да лекара, тады балелі толькі зубы, калі выходзіў, балелі зубы і цэлая галава. Але клопаты, як вядома, не ходзяць у адзіночку. Якісьці вірус заатакаваў маё горла і лёгкія. Трэба было пайсці ў амбулаторыю. Там тым часам адбываўся нейкі пратэст службы аховы здароўя супраць умоў працы. У рэгістрацыі прыйшлося чакаць 23 мінуты пакуль адна з некалькіх седзячых за сталом спадарынь санітарак спытала стоячых у чарзе пацыентаў, чаго хочуць ад дзяржаўнай медыцыны. Невядома чаму, але найбольш мяне ўразілі фартухі гэтых санітарак. Калісьці былі яны белыя, сёння іх колер цяжка адназначна акрэсліць.

Лекарка — трэба адзначыць — працавала выдатна. Толькі паўтары мінуты патрабавала, каб акрэсліць стан майго здароўя, паставіць дыягназ, выпісаць рэцэпт, развітацца са мною і выклікаць наступнага пацыента. Перад кабінетам не было ніякай чаргі.

**Васіль Кургановіч**

*Гурток беларусістаў Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку*

***запрашае***

*на ўрачыстую вечарыну, прысвечаную 76 гадавіне Слуцкага ўзброенага паўстання.*

*У праграме:*

*— канцэрт Андрэя Мельнікава,*

*— даклад Алега Латышонка.*

*Вечарына адбудзецца 28 лістапада 1996 г. у будынку Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку пры вул. Лінярскага, 4.*

*Пачатак: 18.30*

***Арганізатары***

# Яновіч і іншыя

Вызначаючы дэфініцыю феномена беларуса, Сакрат Яновіч (глядзі артыкул на стар. 1 і 4) вяртаецца ў эпоху, калі нашы хлопцы на службе „вядучай сілы польскага працоўнага люду" змагаліся з беларускімі нацыяналістамі. Сам Сакрат Яновіч, як журналіст „Нівы", быў некалькі разоў галоўным героем партыйных нарадаў у Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку. З партыі Яновіча выкінулі на пачатку сямідзесятых гадоў за беларускі нацыяналізм. Партыйна-дзяржаўная прапаганда амаль адкрыта давала тады зразумець грамадзянам, што: „w Polsce warto być Polakiem". Нашы хлопцы „ў камітэце" лепей чым журналіст Яновіч адчувалі атмасферу набліжаючайся эпохі. Ужо ў 1967 годзе заўважылі яны, што таварыш Яновіч перастаў разумець прынцыпы сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, аднак з увагі на змаганне з мясцовымі „сіяністамі" справа вымушана была чакаць паспяховага вырашэння амаль тры гады.

Пачалося ўсё на пачатку 1967 года. Падчас сходу Камісіі па нацыянальных справах Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку абмяркоўвалася самая любімая тэма — ацэнка працы рэдакцыі штотыднёвіка „Ніва". Паўтараліся старыя закіды, што газета недастаткова інфармуе пра традыцыі і актуальныя праблемы партыі і БГКТ, не цікавіцца жыццём вёскі, мае малы тыраж. Прысутнічалі — адзін паляк, адзін яўрэй і шэсць беларусаў. Мэрытарычную дыскусію пачаў заслужаны дзеяч пралетарскага руху на Беласточчыне Міхал Насовіч, які заявіў: «Z tytułu „Niwy" należy wykreślić „Białoruski tygodnik", a wprowadzić „Organ ZG BTSK". „Niwa" może być gazetą o charakterze społeczno-kulturalnym». Члены камісіі былі згодныя з Насовічам. „Ніва" паводле іх не магла мець у загалоўку слова „беларускі", таму што яно надта выразна вызначала яе нацыянальны характар. Усе выступаючыя падкрэслівалі, што прапанова Насовіча ёсць згодная з лініяй партыі. Рэдактар Георгій Валкавыцкі быў за тым, каб пакінуць у загалоўку акрэсленне „беларускі тыднёвік", звяртаў прытым увагу, што «dziennikarze „Niwy" są wszyscy członkami partii i z partią są związani stale i na codzień». І ў гэтым месцы таварыш Уладзімір Сянкевіч, невядома чаму, выцягнуў справу Сакрата Яновіча. „Nieciekawym jest redaktor towarzysz Janowicz, — пачаў Сянкевіч. — Pisze niewłaściwe artykuły, naraża się na publiczną krytykę i potępienie. Dał szereg przykładów, gdzie bardzo arogancko wypowiadał się pod adresem władz partyjnych. W wielu sprawach odwoływał się do KW i innych władz, gdzie nie znalazł jednak poparcia". Выказванне Сянкевіча адкрывала іншым нашым хлопцам „у камітэце" шанц паказацца ў ролі змагароў за „справу партыі". Вядомым стала ім, хто ёсць яе ворагам.

Пару месяцаў пасля, падчас пасяджэння Прэзідыума ўспомненай Камісіі, Мікалай Куц, кіраўнік Грамадска-палітычнага аддзела Управы ўнутраных спраў Ваяводскай рады нанава вярнуўся да журналісцкай творчасці Сакрата Яновіча. «W kilku numerach „Niwy" ukazały się artykuły napisane przez Sokratesa Janowicza, których treść budzi pewne zastrzeżenia. Uważam, że takie artykuły są niepotrzebne, gdyż nie przynoszą nic dobrego zarówno mniejszości białoruskiej jak i Białoruskiemu Towarzystwu. Chodzi o takie sformułowania jak „Białoruski Gródek" lub ustalanie liczby ludności białoruskiej i podawanie przesadnej liczby tej ludności». Таварыша Куца падтрымала Леакадзія Зіневіч, намеснік старшыні Камісіі: „Takie liczenie sprawia, że miejscowość z której pochodzę została zaliczona do białoruskich, a nie ma tam ani jednego mieszkańca, który uważa się za Białorusina". Непрысутнага Яновіча затакаваў таксама Васіль Гулько, намеснік сакратара прапаганды Ваяводскага камітэта партыі: «Niepotrzebnie używa się w artykule zwrotu „Białoruski Gródek". Każdy artykuł w „Niwie" ma swój cel. Kierować do kierowników placówek państwowych, że za mało jest w Gródku repertuaru białoruskiego, to nie pasuje. Przecież jest tam silny aktyw Towarzystwa». Камісія ВК была згоднай: артыкулы Сакрата Яновіча вялі да падзелаў у беларускім асяроддзі, „a partia stawia na to co łączy, a nie na to co dzieli", — пісалася ў завяршэнні пратакола.

З ходу дыскусіі, якую вялі члены Камісіі, вынікала, што не мелі яны ніякіх засцярог да зместу Яновічавых артыкулаў, хаця праўдападобна яны іх і не чыталі. Нашых хлопцаў і іх польскіх таварышаў абурала прымяненне Яновічам такіх акрэсленняў як „Беларускі Гарадок", „беларускія кветкі". Гэты апошні тэрмін журналіст выкарыстаў для апісання беларускага літаратурнага асяроддзя. Не перашкаджала гэта аднак Леакадзіі Зіневіч унесці вельмі слушную заўвагу, што „kwiaty nie mogą być białoruskie czy polskie, kwiaty to są po prostu kwiaty".

Вяртанне да ідэі Польшчы як краіны аднае нацыі не пачалося ад пастановы Цэнтральнага Камітэта з 1976 года „Аб маральна-палітычнай еднасці польскага народа". Сярод беларусаў не толькі Сакрат Яновіч, які пісаў у „Ніве" пра нейкія беларускія кветкі, лічыўся небяспечным нацыяналістам. У 1968 годзе ўзнікла таксама справа Кастуся Майсені. Майсеню выкінулі з партыі і „odwołano z prezesa PZGS za to, że rozmawiał po białorusku" (protokół z posiedzenia Komisji Narodowościowej KW PZPR z dn. 30.10.1968 r.).

У 1968 годзе ад кіраўніцтва БГКТ патрабавалася толькі, каб у радах Галоўнага праўлення былі людзі адданыя партыі. Ніякая дзейнасць гэтых таварышаў у галіне беларускай культуры ўлад не цікавіла. З выказванняў кіраўнікоў Таварыства адчувалася, што баяліся яны таксама, каб не прыклеілі ім ярлыкоў нацыяналістаў. Інструктар Адміністрацыйнага аддзела ВК Станіслаў Зялінскі пачаў адкрыта гаварыць што: „wśród pracowników Zarządu Głównego zdarzają się wypadki podejmowania przedsięwzięć, które służą dezintegracji społeczeństwa polskiego. Prezydium w ogóle nie panuje nad polityką kadrową. Stąd przypadki zatrudniania w pracy ZG BTSK ludzi o słabym przygotowaniu politycznym i dużym zaniedbaniu moralnym. Niepokojącym jest na przykład bezkrytycyzm towarzysza Józwiuka do oczywistych błędów w polityce kadrowej". Дасведчаны дзеяч БГКТ Уладзімір Юзвюк не адчуў зменаў, якія тады наступалі і гаварыў напрыклад: „Mieliśmy przypadki, że aktyw BTSK, który brał udział w wycieczce do BSRR pisał w ankietach, że jest narodowości polskiej. To nie jest człowiek, jeśli nie chce przyznać się do swojej narodowości". У 1968 г. апошняя фраза, каб магла быць згодная з лініяй партыі, павінна гучаць: „Nasi towarzysze dają tym przykład proletariackiego internacjonalizmu". Новую эпоху знакаміта разумеў М. (?) Баршчэўскі, які падчас пасяджэння Камісіі 30 снежня 1968 г. ставіў закіды рэдакцыі „Нівы", што надта мала ўвагі прысвячае яна творчасці польскіх пісьменнікаў, шмат затое піша пра беларускіх.

Напрамкі развіцця беларускай актыўнасці вызначала Міністэрства ўнутраных спраў. Выступленне прадстаўніка гэтай установы В. Тамалі было як бы паказальнікам для нашых дзеячаў. „Dorobek BTSK jest duży, — гаварыў Тамаля. — Należałoby jednak w przyszłości skoncentrować się na folklorze białoruskim. W środowisku białoruskim dokonują się poważne procesy integracyjne społeczno-polityczne. Trzeba więcej uwagi poświęcać aktualnym problemom, którymi żyje środowisko białoruskie, które stanowią o folklorze białoruskim".

Яновіча і Майсеню выкінулі з партыі і пазбавілі працы не за іх палітычныя перакананні, не за нейкую там антыкамуністычную дзейнасць. У тым часе ўладам патрэбны быў вораг у выглядзе „беларускага нацыяналіста". Мог ім стаць кожны, хто не надта рашуча дэманстраваў сваю варожасць да прыдуманага беларускага нацыяналізму і „сіяністаў". На жаль, некаторыя г.зв. нашы хлопцы, выступаючы традыцыйна ў ролі польскіх „інтэрнацыяналістаў" і „патрыётаў", далучыліся таксама да ганебнай антыяўрэйскай „кruцьяты".

**Яўген Мірановіч**

*Фота з архіва*



# Спроба дэфініцыі беларуса

*(працяг са стар. 1)*

усё трымаецца на аўтарах сярэдняга і старэйшага ўзросту; маладыя час ад часу мігаюць метэорамі пару неблагіх вершаў і некуды знікаюць, як бы назаўсёды (спеласці літаратуры прыдае аднак проза, а яе тут са свечкаю шукаць).

Гэта, так сказаць, сімптомы смяротнай хваробы. Кандыдат у Нобелеўскія прэміянты Васіль Быкаў нядаўна канстатаваў: **нечуваны ў цывілізаваным свеце парадокс нашай трагедыі ў тым, што мы, беларуская творчая інтэлігенцыя, ствараем культуру для народа, які быў, але якога ўжо няма, нам яго ўкралі ды мы пра тое яшчэ не ведаем....**

А мне ў шэрую гадзіну смутку не раз падумаецца, што беларуская нацыянальная актыўнасць цяпер павісла паміж зямлёю і небам. Духоўна абрабаваная нацыя беларусаў збеглася ў ананімны натоўп разяваў ды, задраўшы галовы, рагоча з тых, хто крыкам сваім намагаецца абудзіць у іх сумленне і душу. Чыстае вар'яцтва! Mowa dziada do obrazu.

Падумаецца яшчэ і такое, што беларуская дзейнасць страціла сваю натуральную патрэбнасць і служыць ад некаторага часу перш за ўсё тым *карцёжнікам з беларускай картай у калодзе* (яны гатовы і плаціць за яе фабрыкацыю). Бо, калі ж гэта было так, каб прывілеявана беларускую дзейнасць? За яе і цяпер як быццам не гладзяць па галоўцы, але і не пляжаць, як даўней, хоць даволі ўжо без апраўданняў прыпыніць фінансаванне і назаўтра пра ўсё і ўсе дакладна забудуць, акрамя жменькі pieprzonych nacjonalistów. Wybierz polskość, gnoju jeden! (з народных афарызмаў у Крынках).

Беларуская дзейнасць — гэта той від чалавечае актыўнасці, які мае эксклюзіўны характар і не выкліканы агульнаграмадскімі патрэбамі. У моц таго, што сам беларускі народ — гэта этнаграфічная разнавіднасць славянаў, якая паслужыла ўзмацняльным кампанентам суседнім нацыям, а таксама эксперыментальным базісам у няўдалай спробе стварэння савецкага народа.

Дэфініцый ёсць больш, але скончу на гэтых. **Сакрат Яновіч**

P.S. Карыстаючыся гэтай нагодаю свайго выступлення на старонках „Нівы", выказваю падзяку **Яну Максімюку** як аўтару арт. *Беларусь у пошуках свайго месца*, у якім небанальна, паглыблена, палемізуе ён з маім: *Беларусы ў Польшчы...* (20.X; 10.XI). Віншую яго з багатай лексікай, беззаганнай пабудоваю фразы, і асабліва з абгрунтавана лагічнымі высновамі. Чытаў з задавальненнем, і з прызнаннем! **С. Я.**

# Прага зноў прымае Францішка Скарыну

Неардынарная падзея навейшай беларускай гісторыі можа застацца невядомай для саміх беларусаў. Адкрыццё ў Празе памятнай дошкі і помніка Францішку Скарыне, мякка кажучы, не афішавалася на Беларусі. Аб заўзяршэнні шматгадовай падрыхтоўчай працы і вызначанай даце напачатку ведалі толькі лукашэнкаўскія чыноўнікі.

Ганна Сурмач — старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", шмат папрацаваўшая на справу ўшанавання вялікага беларуса, даведалася аб імпрэзе выпадкова, праз уцечку інфармацыі з Міністэрства культуры (прыехаць у Прагу спадарыня Сурмач змагла з дапамогай Фонду Сораса). Пятро Краўчанка — старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, які яшчэ ў сваю бытнасць міністрам замежных спраў арганізоўваў падзею, прыехаў за свой кошт, бо не быў нават уключаны ў склад афіцыйнай дэлегацыі. „Гэта вялікая знявага для мяне!" — заявіў спадар Краўчанка. „Забыліся" запрасіць прафесара Адама Мальдзіса — дырэктара Нацыянальнага культурна-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны. Выдатны скарыназнаўца саматугам дабрацца не змог. Падобна, паласа адчужэння паміж уладамі і культурнай Беларуссю сёння набывае характар франтавой паласы.

Афіцыйную Беларусь прадстаўлялі тры члены ўрада: віцэ-прэм'ер, міністр замежных спраў, міністр культуры, а таксама пасол, які і вёў рэй. Грамадскасць складалася з супрацоўнікаў пасольства, журналістаў беларускай рэдакцыі радыё „Свабода", чэшскіх сяброў, выпадковых прахожых і нешматлікіх беларускіх грамадзян, якія змаглі дабрацца ў Прагу пад выглядам турыстаў. Сярод астатніх — прадстаўнік БНФ Віктар Івашкевіч. Чэхі трымалі транспарант з надпісам: „Беларускія дэмакраты, мы з вамі!" і час ад часу выкрыквалі лозунгі-пратэсты супраць уціску свабоды на Беларусі. Лунала некалькі бел-чырвона-белых сцягоў і небаракам-кіселёўцам давядзецца паламаць галаву над тым, як выразаць іх з афіцыйнага тэлерэпартажа.

Напачатку, 31 кастрычніка 1996 г. а 14-й гадзіне па пражскім часе адкрывалі памятную скарынаўскую дошку, умацаваную на сцяне Кліменцінума — нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі ў самым цэнтры Прагі. Аўтару твора — менскаму скульптару Алесю Дранцу не надта шанцуе са Скарынай у сённяшняй Беларусі. На пачатку 90-х гадоў гэты таленавіты малады майстар выйграў прадстаўнічы конкурс на лепшы помнік Скарыне ў Менску і каторы год чакае, пакуль урад знойдзе грошы на яго ўстаноўку.

Другая частка падзеі распачалася а 15-й гадзіне непадалёк ад каралеўскага замка на Градчанах, дзе Скарына калісьці працаваў вучоным-батанікам чэшскага караля. Недзе тут знаходзіцца і магіла нашага першадрукара, якую ніяк не ўдаецца знайсці. Граў ваенны аркестр, бронзавую фігуру вялікага беларуса (аўтар помніка — Эдуард Астаф'еў) атачала ганаровая варта ў парадных строях з начышчанай да бляску зброяй. Пад шум прамоваў мы пацішку тлумачылі цікаўным пражанам чаму сцягі над нашымі галовамі зусім не падобныя на той чырвона-зялёны, які трымаюць салдаты варты. Чэхі выказалі шмат павагі да Скарыны і зусім мала — да лукашэнкаўскіх міністраў. Чэшскі консул у Катавіцах, пачуўшы, што мы з калегам едзем на адкрыццё помніка Скарыны, адразу ж выпісаў нам прапускны ліст да пагранічнай варты. З віцэ-прэм'ерам і міністрамі ўрада Лукашэнкі сустрэўся толькі намеснік міністра культуры Чэхіі. Дэмакратычная Чэхія дэманстравала розніцу сваіх адносінаў да беларусаў і да рэжыму дыктатара. Беларусам сёння хораша дыхаецца ў Празе, таксама як і некалькім пакаленням беларускай эміграцыі ў пачатку XX стагоддзя, таксама як і вялікаму Францішку Скарыне ў XVI ст. Прага прымае і саграваe нас, наталяе адвечную беларускую прагу да глытка волі. Тут святыя нашы магілы. На Старых Альшанскіх могілках — Пётра Крэчэўскі, Юры Захарка, Міхась Забэйда-Суміцкі...

Цяпер у свеце ёсць тры помнікі вялікаму Беларусу: у Полацку, Лідзе і Празе. Будзе так, што і сталічны Менск на галоўнай сваёй вуліцы — праспекце Францішка Скарыны — паставіць яму помнік. Але хіба не пры гэтай уладзе...

**Алесь Краўцэвіч**



*Помнік Францішку Скарыне на Градчанах (аўтар Э. Астаф'еў).*



*Беларусы ля помніка Ф. Скарыне — 31 кастрычніка 1996 г.*

# Шкада, бо дрэнна

Падзеі, якія адбываюцца на Беларусі, нагадваюць адначасова і трагедыю, і фарс.

Каб разабрацца ў сітуацыі, трэба забыць, што пры цяперашній Канстытуцыі збівалі дэпутатаў проста ў будынку Вярхоўнага Савета, нічога не зрабілі з арганізатарамі збівання людзей у час Чарнобыльскага шляху, аднавілі артыкул аб спекуляцыі, забаранялі амаль паўгода рэгістрацыю фірм і прыватнай дзейнасці і г.д. Калі гэта забыць, тады выйдзе, што сапраўды трэба бараніць Канстытуцыю. Толькі не зусім зразумела, якім спосабам? Калі ўжо вельмі працяглы час гэта не ўдаецца зрабіць, і прэзідэнт мае дастатковыя паўнамоцтвы, каб працягваць сваю палітыку.

Калі ж забыць, што большасць Вярхоўнага Савета — гэта камуністы — зюганаўцы і аграрыі, а таксама паверыць у тое, што яны страцілі старыя інстынкты, тады атрымаецца, што сапраўды антылукашэнкаўская кааліцыя — апазіцыя, а спікер ВС Сямён Шарэцкі — дэмакрат. А калі так, то і прапанаваныя імі папраўкі да Канстытуцыі зусім добрыя і з'яўляюцца годнай альтэрнатывай прэзідэнцкай.

Трагічнасць сітуацыі ў тым, што ў беларускага народа ёсць тры шляхі. Можна прыняць прапанову „заступніка"-прэзідэнта і застацца з жырыноўскападобнымі чыноўнікамі, якія паводзяць у „рынкавы сацыялізм". Можна выбраць прапанову дэпутатаў і такім чынам страціць „заступніка" і дазволіць „старым таварышчам" абязлічана кіраваць сабой. Можна заставіць усё на сваіх месцах і застацца з тымі жырыноўскападобнымі чыноўнікамі разам з камуністамі-зюганаўцамі ды „чырвонымі памешчыкамі", а на чале ўсяго гэтага будзе ўсё той жа бессаромна ілгучы прэзідэнт.

Які б выбар не зрабіў беларускі народ, жыццё яго застанецца трагічным, а палітыка, як і цяпер, будзе толькі фарсам.

**Алена Стралкова**
**журналіст газеты „Грамадзянін"**

# Свята незалежнасці ў Беластоку

Сёлетнія святкаванні Дня незалежнасці Польшчы, апрача фармальна свецкіх урачыстасцей, мелі і два рэлігійныя мерапрыемствы. Адно з іх — урачыстае набажэнства ў праваслаўным Саборы св. Мікалая; другое — урачыстая імша ў каталіцкай мітрапалітальнай Фарнай базіліцы.

Праваслаўная багаслужба адбылася напярэдадні дзяржаўнага свята — у нядзелю 10 лістапада. Адпраўляў яе архіепіскап беластоцка-гданьскі, палявы біскуп Войска Польскага — Сава ў саслужэнні беластоцкіх свяшчэннікаў. Прысутнічалі дзяржаўныя і самаўрадавыя чыны, узначаленыя беластоцкім ваяводам Анджэем Гаеўскім а таксама вышэйшае афіцэрства беластоцкага вайсковага гарнізона, гранічнай аховы, паліцыі і пажарнікаў. Былі чатыры сцяганосныя патрулі, з два дзесяткі салдат і біткам набіўшыя царкву вернікі. Спяваў хор Праваслаўнага ардынарыята — хвілінамі цудоўна. Служба адпраўлялася на традыцыйнай царкоўнай мове, адно толькі там, дзе трэба было, каб высокія госці даведаліся, што пра іх мова, фраза-дзве мовіліся папольску: *модлімы се за Жэч Посполіто Польско, ей найвышшэй ўладзэ і войско, Хрыстуса мілуёнцых*. Пропаведзі таксама былі на дзяржаўнай мове. Малады бацюшка сказаў м.інш., што аб'яўленне незалежнасці Польшчы было звяржэннем сатанінскага ярма. Зажылі, відаць, тады, пры „Хрыстусе мілуёнцых" яго аднавернікі: і матэрыяльна, і духова... Можна і так, бо дзеля гэтага ж і правілася служба: кесарава — кесару. Дарэчы, уладыка Сава ў сваёй пропаведзі гаварыў пра тое, пра што чытаў і ў Апостале — пра кесараў дынарый. Бо калі кесарава забраніравана другімі... толькі ад яго і адмяжоўвацца іншаверцу. А наканец хор праспяваў прадстаўнікам улад і „Многая лета", і „Сто лят".

У панядзелак, 11 лістапада, адбылася ўрачыстая імша ў Фарным касцёле, якую ўзначаліў беластоцкі мітрапаліт, арцыбіскуп Станіслаў Шымэцкі. Тут таксама былі важныя чыны, а да таго ўжо 49 сцяганосных патрульяў ды духавы аркестр. Ну і поўная святыня народу. Пачатак набажэнства быў прысвечаны дзяржаўнаму святу: казанне мела характар гістарычнага эскізу ды зводкі навін з каментарыем — вярхоўныя ўлады дзяржавы атрымалі тут зусім другую ацэнку, чым у царкве дзень раней. Далейшая, літургічная частка, мела таксама зусім другое, чым у царкве, біблейнае абгрунтаванне. Былі тут зачытаны ўрыўкі з кнігі прарока Ісаіі — *rozwiąż brzemiona ciężkie (...) wszelkie jarzmo rozerwij...* — ды евангельскае апавяданне пра ўціхаміранне буры на Галілейскім моры: *Przeczeście tak bojaźliwi? Jakoż nie macie wiary?* Націск тут на напорыстасць, упэўненасць, не было тут, як у праваслаўных, ніякай раздвоенасці. Прыналежнасць да адзіных нацыі і рэлігіі гэта па-просту непахісны факт — знак Божай і людской волі. Згодна гэтаму і набажэнства за Айчыну служылася напорыста і даволі сэнсоўна: не ўдалося мне там пачуць ніякага кур'ёзу.

З базілікі большасць удзельнікаў імшы падалася пад неадлеглы помнік Юзафу Пілсудскаму, дзе былі зачытаны прамовы і адбылося ўскладванне вянкоў. **(ав)**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Мая сяброўка

Маю сяброўку Натальку
Я вельмі люблю
І прыклад з яе бяру.
Ёй добра ідзе ўсё,
Кожны прадмет, кожная задача.

Яна чорныя валасы мае,
Добры настрой у яе заўсёды.
Хаця не адзін ураган
Прайшоў між намі,
То заўсёды наставаў сонечны дзень.

**Сільвія Ракіцкая**
**кл. V „а" ПШ у Нарве**

## Энтузіястам «Сутрэч „Зоркі"»

Прывітанне, сябры! Прачытайце, калі ласка, гэтую кароценькую звестку. Мне вельмі прыкра, што не ўсе прыхільнікі і энтузіясты «Сустрэч „Зоркі"» могуць адначасна пабываць на нашых мерапрыемствах. Многія дзеці пытаюцца, чаму якраз яны не атрымалі запрашэння, хаця ўжо раней былі на «Сустрэчах „Зоркі"». Першай і галоўнай прычынай з'яўляецца абмежаваная колькасць месц.

Зараз прадбачваем чарговыя, ужо VI Сустрэчы. Адбудуцца яны ў Старыне. На працягу трох дзён мы будзем знаёміцца з працай прэсавага журналіста. Пойдзем таксама ў народ збіраць журналісцкія матэрыялы. І таму запрашаем перш за ўсё асобы, якія часта дасылаюць нам карэспандэнцыі. Дзяцей, якія любяць маляваць або гуляць у тэатр мы запросім на чарговыя мерапрыемствы. Маю таксама вялікую просьбу да тых, што атрымалі запрашэнні. Калі нехта з Вас не можа прыехаць, хай пазвоніць у рэдакцыю. Бо на яго месца чакае многа-многа дзяцей.

**„Зорка"**

*Беларусы шануюць сваю нацыянальную сімволіку. На здымку (злева): трохгадовы Славамір і чатырохгадовы Светамір з Прагі.*



## Школьныя мерапрыемствы

Хто з нас не любіць школьных мерапрыемстваў? Няма ўрокаў, абавязкаў, кантрольных работ. 8 лістапада г.г. святкавалі вучні гарадоцкай школы. У гэты дзень школе падарылі новы сцяг. Дзеці, як наказвае традыцыя, папрыходзілі ў бела-чорных касцюмах. Яшчэ іншыя пераапрануліся за партызанаў у вайсковую форму і такія ж самыя боты.

Хлапчукі, як належыць легендарным партызанам, прыкідваліся паранеными. Яны, быццам цацкі, трымалі таксама зброю. Такі маскарад спрыяў добрай гульні. У Гарадку дзеці спецыялізуюцца ў разнавідных канкурэнцыях. Яны заадно могуць выступаць як дэкламатары ці спевакі ў беларускіх конкурсах, царкоўных, польскіх патрыятычных мерапрыемствах.

Не ўсе дзеці маглі пабываць на школьнай урачыстасці. З кожнага класа былі вызначаны адны выдатнікі. Мне вельмі прыемна было там сустрэць і сяброў „Зоркі". А вяртаючыся да разнавіднасці выступленняў: гэта несумненна выгодная пазіцыя. Але ці не банальная, тандэтная? У сённяшні час трэба прывіваць сабе арыгінальнасць. Інакш нас няма!

**Г. К.**



## Мае сустрэчы

10 кастрычніка адбылася сустрэча „Зоркі". Было гэта ў Бельску-Падляшскім. Як заўсёды мы малявалі там крыж. Сустрэча была сарганізавана з выпадку стагоддзя з дня нараджэння Яраслава Кастыцэвіча — колішняга дырэктара Беларускага ліцэя.

Сабраліся мы ў чацвер пры „тройцы" і пайшлі на плябанію Уваскрэсенскай царквы. Там чакаў нас крыж. Перад маляваннем мы памаліліся. Пачалася праца. Кожны ўзяў ікону, якую намерваўся маляваць. Потым мы зрабілі эскізы святых і прыступілі да малявання. Настрой быў радасны. Калі мы скончылі маляваць крыж, трэба было падпісаць іконы. Пасля мы атрымалі запрашэнне на вогнішча каля дома Кастыцэвічаў. Там чакалі нас каўбаскі. Пры вогнішчы ўсе спявалі беларускія песні. Але гэта не быў канец сустрэчы „Зоркі". У нядзелю чакала нас экскурсія „Шляхам Кастыцэвічаў".

Нядзеля прыйшла хутка. Аўтобус па нас прыехаў да „тройкі". Разам з намі ехалі гісторыкі. Найперш мы падаліся ў Дубічы-Царкоўныя. Па дарозе Дарак Фіёнік расказаў нам пра Кастыцэвічаў. У Дубічах-Царкоўных мы наведалі царкву. Потым паехалі ў Стары Корнін. Там на адным пляцы стаяць дзве царквы. Затым мы наведалі Пасынкі. Там свяшчэннікамі былі продкі Яраслава Кастыцэвіча. Пасля таго мы паехалі на вуліцу Дубічы, дзе пасвяцілі наш крыж, а затым разышліся дадому.

Мне гэтая сустрэча вельмі падабалася.

**Міхал Стэпанюк**
**кл.VI „е" бельскай „тройкі"**

## Пра рэпку і тры сястры

*(беларуская чарадзейная казка)*

Жылі бацька і маці. І былі ў іх тры дачушкі. Пасеялі яны рэпку. Занадзіўся нейкі злодзей, ды рэпку па начах стаў вырываць.

— Пайду пільнаваць, — сказала найстарэйшая дачка.

— Дзе ж табе валачыцца? — угаварвалі бацькі. — Прыбяжыць нейкі воўк, ды ўхопіць цябе.

— Калі доля такая, — рашыла дзяўчына — то і воўк хай хапае!

Пайшла яна на агарод, лягла і чакае. Прыбег воўк. Нарваў рэпкі, ускінуў на спіну дзяўчыну і павалок яе ў лес.

На другі дзень сярэдняя дачка кажа:

— Сёння я пайду. Можа сястрыцу, галубку, найду?

І пайшла яна адвячоркам. Лягла ў баразне і чакае злодзея. Прыбег мядзведзь. Нахапаў ён рэпкі і дзеўку павалок за сабою.

Цяпер трэцяя дачка ў хаце выседзець не можа:

— Хай і мяне цягнуць і з'ядаюць, — угаворвала бацькоў. — Загінулі мае сястрыцы і мне туды дарога.

Пагаварыла яна і пайшла. Трэцюю дачку агонь узяў. І вось было так, дзве дачкі — старэйшая і сярэдняя добра жылі-прыпявалі. А тая, што за агнём была, гаравала, плакала.

Нарадзіўся ў бацькоў доўгачаканы сын. Не па гадах, а па днях рос. І дужы быў. Пачаў ён бацькоў дапытваць.

— Чаму гэта злыя людзі, мяне, недаедкам воўчым абзываюць?

Расказалі ўсё хлапцу старыя.

— Пайду сясцёр шукаць, — рашыў хлапец.

Бацькі плакалі.

— Не ідзі сыночку, — угаварвалі, — бо і цябе яшчэ нехта нам забярэ.

Але юнак настойлівы быў. Не было рады. Купілі бацькі яму стрэльбу, далі на дарогу торбачку сухароў ды і правялі аж на крыжавыя дарогі.

Ішоў той маладзец дарогамі, лесам. Пабачыў хатку маленькую. Зайшоў у сярэдзіну, а там маладая дзяўчына касу чэша і песні спявае. Пазнала хлапца сястрыца.

— Ой, браціку родненькі, — плакала яна ад радасці, — які ты слаўны, прыгожы. Цяпер я цябе схаваю. Бо неўзабаве вернецца воўк ды яшчэ з'есць нас абое. Схавала сястра брата і чакае мужа. Прыбег воўк і зразу ж чалавека ў хаце знюхаў.

— Ой, нешта чалавечым мясам пахне!

— Ды што ты, Ваўчок, — смялася дзяўчына, — нанюхаўся не-

Этнаграфічныя цікавінкі

# Абрадавыя стравы

Яда з'яўляецца неадлучнай часткай нацыянальнай культуры. Асабліва значэнне маюць т.зв. абрадавыя стравы. Іх гатавалі да сямейных або каляндарных свят. Найбольшае значэнне мелі: каша, бліны, аладкі, хлеб. Апрача вядомага прызначэння яны мелі яшчэ і магічнае выкарыстанне. Каша з цэлага зерня — сімвал жыцця, мела ці не найбольшае значэнне. Яе гатавалі да радзін, вяселля, хаўтур, каляд, жніўнага абраду, купалля. Тут варта згадаць пра *бабіну кашу* ў час радзін, у час вяселля *салодкую кашу* падносілі маладой, на памінкі варылі салодкую ячную кашу, а таксама рытуальную страву *канун*. Каляды святкавалі з куццёй. Гэта ж таксама каша з абтоўчанага ячменю. Куццю абносілі вакол хаты, ставілі на покуць (месца, дзе вісяць абразы і дзе стаўляюць труну з нябожчыкам), верх куцці аддавалі курам, каб добра нясліся. Гаспадар клікаў на посную куццю мароз, загаворваючы, каб той не марозіў садавіны, ураджаю, людзей. Куцця выкарыстоўвалася ў варажбе. На Палессі жытнюю кашу бралі з сабой, калі ішлі першы раз жаць. Нажаўшы на першы сноп, тры разы бралі ў рот гэтай кашы, астатнюю выкладвалі ў сноп і завязвалі яго. З рытуальнай сімволікай ураджаю звязаныя і велікодныя стравы. Рэшткі асвячоных у царкве яек, пірагоў, кумпяка закопвалі на сялянскіх загонах. Адно велікоднае яйка закопвалі да пачатку сяўбы.

Асабліва магічная сіла надавалася блінам, аладкам. Яны сімвалізавалі сонца і яго гадавы круг. Бліны і аладкі былі абавязковай стравай на масленіцу (карнавал) і каляды.

Да абрадавых страў належаць таксама звычайныя стравы, якія традыцыйна гатуюць у святочныя ці памінальныя дні. На посную куццю варылі посны боршч з грыбамі, крупнік, аўсяны кісель, узвар з сушаных яблыкаў, пяклі бліны, аладкі, ламанцы з цёртым макам. На багатую куццю — бліны з салам і каўбасой, боршч з мясам, на Падляшшы бульбяную кішку з салам.

На масленіцу, акрамя бліноў, абавязковымі былі сыр і масла. На Вялікдзень — яйкі, сыр, масла, сала, кумпяк (шынка). На Купалле варылі *калуну*. На памінальным стале павінны былі быць боршч з мясам, сытая каша, каўбаса, бліны. Варта пра гэта памятаць і задумацца, спажываючы сённяшнія, чужыя народным традыцыям стравы.

**Зорка**

# Януш Радзівіл

Нарадзіўся ў 1612 годзе, у сям'і аднаго з найбольш магутных магнацкіх родаў Еўропы. Радзівілы найдаўжэй змагаліся за самастойны быт Вялікага княства Літоўскага. Як бы прадчуваючы будучыню, рашуча выступалі супраць аб'яднання Бацькаўшчыны ў адну дзяржаву з Польшчай. Януш Радзівіл прысвяціў справе незалежнасці беларускай дзяржавы ўсю сваю вайсковую і палітычную актыўнасць.

Адзначаўся ён незвычайным арганізатарскім і вайсковым талентам. Як малады чалавек быў абраны віленскім ваяводам і найвышэйшым гетманам. У 1649 г. беларускае войска пад яго камандаваннем разграміла адну з казацкіх армій Багдана Хмяльніцкага пад Лоевам, а два гады пасля Януш Радзівіл заняў Кіеў. Ужо тады гетман зразумеў што Вялікае княства ў саюзе з Польшчай чакае безупынная вайна з казакамі, Масквою, Турцыяй. У змаганні з казакамі, за інтарэсы Польшчы Беларусь бессэнсоўна патраціла свой патэнцыял. У 1654 г. на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага ўварвалася 100-тысячная маскоўская армія. Супраць агрэсараў Януш Радзівіл здолеў паставіць у полі толькі 10 тысяч жаўнераў. Палякі — саюзнікі, не дапамаглі. У выніку расейскай акупацыі Беларусь патраціла палову насельніцтва. У такой сітуацыі Януш Радзівіл пачаў шукаць новых саюзнікаў. У 1655 годзе падпісаў пагадненне са Швецыяй, якая тады была адной з наймагутнейшых краін Еўропы. Вялікі гетман лічыў, што здолее абараніць Бацькаўшчыну ад расейцаў і палякаў. Не ўдалося, аднак, яму давесці справу да канца. Памёр на 43 годзе жыцця. Праўдападобна быў атручаны.

# Польска-беларуская крыжаванка № 47

**Наш слоўнік:** ял — суднавая рабочая і вучэбная вёслава-парусная шлюпка з дзвюма, трыма і чатырма парамі вёслаў.

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем узнагароду — **касету беларускага гурту „Белы сон".**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Nietoperz<br>Biedronka | | | Kłomla<br>Byk | |
| Baba<br>Jeż | | | | |
| | | | | |
| Żak<br>Pan | | | | Młyn |
| | | | Stok | |
| | | Plaża<br>Rząd | | |
| | | | | |
| | | | | |
| Jakuci<br>Młyński kamień | | | | Rak<br>Arab |
| | | | Szalupa, jola | |
| Ród<br>Rekin | | Jar | | |
| | | | | |
| | | | Strach | |

**Адказ на крыжаванку н-р 43:** Марк, крот, рыза, жрэц, лубін, гара, парк, удар, кактус, крупы, рыба, позірк, Танк, жмут, атрад, эрас, цар.

Узнагароды:

**каляровыя пластмасавыя алоўкі** выйгралі:

**Андрэй Крук** , ПШ у Новым Корніне, **Малгажата Госцік**, ПШ у Гарадку, **Бася Бірылка**, ПШ у Новым Корніне, **Аня Крукоўская**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**аўтаручкі маркі „Staedtler"** выйгралі: **Іаанна Мялешка**, ПШ у Новым Корніне, **Эля Тарацэвіч**, ПШ у Гарадку, **Аня Садоўская**, ПШ у Нарве, **Гжэгаж Мартынюк**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Пятрусь Янкоўскі**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі або чакаць іх у сваёй школе.

# Каты

Каты ёсць розныя —
белыя, чорныя і шэрыя.
Доўгія вусы тырчаць
з мордкі.
Маюць чатыры калматыя
лапкі
якімі ловяць мышэй.
Хаця каты маюць тоўсты
жывоцік
„лятаюць" хутка як самалёцік.
Хаця ў іх маленькі язык
ўсё малако вып'юць уміг.

**Ірэк АБРАМЮК**
**ПШ у Нарве**



*Дзеці са школы ў Нурцы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

дзе па людзях валачыўшыся, ды і выдумкі тут мне адны гаворыш.

— А чаму ж мне так мясам чалавечым пахне? — не адставаў воўк.

— А што ты Ваўчок рабіў бы, калі б мой брат да нас у госці зайшоў?

— Гм... што рабіў бы? Частаваў бы!

— Вылазь браце, — прадставіла ваўку дзяўчына брата-маладца.

Воўк раздабрыўся, прывалок мяса, выпіць паставіў.

— Ты бы, Ваўчок, мяне да бацькоў пусціў, — папрасіла ціха дзяўчына.

— Калі пусціць мядзведзь і агонь, і я пушчу. Ды і зусім будзеш магла ў бацькоў астацца.

Падзякаваў за гасціну хлапец і пайшоў далей. Ішоў, ішоў, сустрэў хатку на курынай назе. Там яго сярэдняя сястра жыла. Схавала яна брата перад Мядзведзем-мужам.

— Што гэта ў цябе свежае пахне, — папытаў вярнуўшыся мядзведзь.

— А што ж, — кажа яна, — у мяне пахне? Няма ў мяне нічога. А што ты Мішка рабіў бы, калі б брат мой ў госці да нас прыйшоў?

— Ну што? — здзівіўся мядзведзь. — Частаваў бы яго!

— Выходзь брацік, — пазвала сястра хлапца.

Мядзведзь як след госця накарміў, пачаставаў.

— Можа бы ты мядзведзь сястру мне аддаў, — пачаў госць.

— Ну, — пачаў касалапы, — аддасць воўк, аддасць агонь, і я аддам, чалавекам буду!

Пайшоў зноў брат у дарогу. Доўга наймалодшае сястрыцы шукаў. Аж чуе, што нехта плача, галосіць.

— Ой, не шкадуе мяне агонь, — наракала яна. — Уляціць у валасы, смаліць.

Тым часам і агонь вярнуўся. Шугануў ён, косы паліць стаў.

— Чаму ты мяне не шкадуеш? — крычала дзяўчына. — Дзе душа твая?

— Мая душа? — пачаў агонь. — Яна жыве там, дзе тры дубы стаяць. А пад тымі дубамі азярэчка. Па азярэчку плавае качка. У сярэдзіне ў яе залатое яйка. А ў гэтым яйку свечка, у свечцы мая душа, — дыхануў агонь і заснуў. Раніцай агонь у свет паляцеў. Пайшлі брат з сястрыцай азярэчка шукаць. Найшлі яны тую качку, дасталі яйка, патапталі свечку.

Эх, бачаць, агонь коціцца. Ледзь адхіліцца паспелі. Той агонь у ваду паляцеў, затануў.

Пайшлі брат з сястрой да мядзведзя, а пазней да ваўка.

Прывёў маладзец дзяўчат дахаты, людзі яго сустракаюць і надзівіцца не могуць.

— Вы казалі, я недаедак воўчы, — сказаў ім хлапец. — А мае сёстры ўсе жывыя! І толькі вашы злосныя мовы ніякі агонь не бярэ!

**Зорка**



Талон „Зоркі" № 47
24.11.1996

# Вяртаючыся да Казлоўшчыка

Чытачы „Нівы" маглі пазнаёміцца з жыццёвым шляхам і творчасцю Уладыслава Казлоўскага з выпадку стагоддзя з дня яго нараджэння („Ніва" № 4 ад 22 студзеня 1995 г., с. 8; № 33 ад 18 жніўня 1996 г., с. 5). Аўтар, Сяргей Чыгрын, звярнуў галоўным чынам увагу на яго літаратурныя здабыткі. Мне здаецца, што ён быў перш за ўсё беларускім палітычным дзеячам. Не мне ацэньваць яго літаратурныя творы, таму звярну ўвагу на яго грамадскую і палітычную дзейнасць. Дарэчы, за справай апошняй і страціў ён жыццё **13 лістапада 1943 г.** Быў ён застрэлены ў рэдакцыі „Беларускай газеты" ў Менску. Развітаўся з жыццём, змагаючыся за Беларусь, так як хацеў. А можа гэта ён прадчуваў, пішучы некралог, прысвечаны свайму сябру Альбіну Стаповічу — у 1934 г. у „Новым шляху". „З тваёй смерцю, дарагі таварыш, мы зацягнулі абавязак і перад табой, абавязак пераможнай барацьбы за волю Беларускай Нацыі і дабрабыт яе працоўных сяброў. У гэтым змаганні мы не будзем баяцца ніякіх злыбед, ні мукаў, ні смерці. Гэта кажам мы табе, таварыш, на вечнае развітанне і просім сілу, якая цябе забрала без пары, каб яна не прыходзіла да нас тады, калі мы будзем у мяккім ложку сямейнага дому, але каб пазволіла нам памерці ў барацьбе за вызваленне гаротнага Беларускага Народу". І так сталася. Пахoвіны адбыліся 22 лістапада на Кальварыйскіх могілках у Менску, далёка ад роднага Залесся пад Саколкай. Ходзячы па гэтых могілках (апошні раз 6 кастрычніка г.г.) за кожным разам настойліва разглядаю забытыя ўсімі магілы і крыжы. У якім месцы мог быць ён пахаваны? Ці засталіся нейкія кнігі са спіскам пахаванняў з перыяду вайны? Як сцвярджае адміністратарка касцёла, нічога такога няма. Астаецца разлічваць на памяць тых, хто прысутнічаў на пахаванні. Можа Наталля Арсеннева? Ці Антон Шукелайць? Ці Антон Адамовіч? А можа нейкія іншыя сведкі ёсць яшчэ сярод жывых? Думаю, што ўжо апошні момант, каб паспрабаваць пашукаць яго магілы і паставіць на тым месцы хаця б драўляны крыж з табліцай (як па Іваноўскім).



*Семінарыст Уладыслаў Казлоўскі.*

Тады, у 1943 г., нават адбылася ў яго гонар жалобная акадэмія, 28 лістапада. Прысутнічалі прадстаўнікі нямецкіх і беларускіх улад, пісьменнікі, моладзь і сябры. Прамаўляў Аўген Калубовіч, хор Менскага беларускага тэатра спяваў патрыятычныя песні: „Пагоню", „Беларусь — наша маці-краіна", „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Кіраўнік прэсавага выдавецтва Шрэтэр да жонкі У. Казлоўскага, Алены, сказаў: „Раскажыце свайму дзіцяці, што ягоны бацька загінуў за вялікую справу, за якую ён змагаўся разам з немцамі". Дачушцы Казлоўскага, Марыі, было тады ўсяго два гады. Шмат разоў я думала, які быў далейшы лёс гэтай жанчыны. Ці дачка даведалася, за што загінуў яе бацька?

У канцы шукаць слядоў асталося ў родным Залессі пад Саколкай. Пасля менскіх пошукаў на могілках, не спадзявалася я на шмат чаго новага ў роднай вёсцы Казлоўшчыка. Прыехаўшы туды летам, толькі высеўшы з аўтобуса, ад мясцовай жанчыны я даведалася, што Казлоўскія жывуць у Залессі. Дом стаіць у пачатку вёскі, але воддаль ад шашы, якая вядзе з Саколкі ў Сідру. Казлоўскія якраз вазілі авёс — лета ў поўным разгары. Унукі сушылі сена. А спадарыня Тэрэса Казлоўская рыхтавала абед для з'ехаўшых на дапамогу дзяцей з Саколкі і Дубровы. Ужо на пачатку размовы яна ўдакладніла мне, што папала я добра — да братанка Уладыслава, Генрыка. Больш Казлоўскіх у Залессі няма.

Абед стаўся нагодай для ўспамінаў пра дзядзьку. Спадар Генрык добра памятае Уладыслава, яго прыезды з Вільні ў вёску, зачытваныя ім беларускія вершы і гульні, якія арганізаваў для мясцовай моладзі. Апошняя звестка пра Уладыслава — гэта той чорны дзень, калі прыйшла з Менска газета з інфармацыяй пра яго смерць. Пытаю з надзеяй пра жонку Уладыслава. На жаль, нічога тут не высвятляецца. У Залессі ніколі яна не была. Уладыслаў ажаніўся недзе ў 1940 г. Дачка спадара Генрыка ўспамінае пра ліст з Варшавы ад нейкай жанчыны недзе 15 гадоў таму назад, якая быццам бы была жонкай Уладыслава. Адпісалі. Але больш нічога не атрымалі. Адрас яе, на жаль, не захаваўся. Ліст з Варшавы таксама.

Успамінаючы пры стале даўнія часы, разглядалі мы здымкі Уладыслава — семінарыста, вайскоўца. Нават захаваўся здымак яго дзеўкі з Быдгашчы з 1927 г., нейкай Ядвігі. „Калі б вядома было, дзе пахаваны Уладыслаў, можна было б паставіць помнік, — сказаў спадар Генрык. — Дзед Юзэф, бацька Уладыслава, памёр 12 сакавіка 1946 г. і пахаваны на нашых могілках пры касцёле".

Шчаслівая ад знаходкі вярталася я з Залесся. Апрача гэтага, што заставалася ў архівах і бібліятэках, пра Уладыслава Казлоўскага памятае яшчэ родная вёска, родны дом і панадворак, а таксама сям'я яго братанка, якая перадае новым пакаленням Казлоўскіх памяць пра „niedoszłego księdza i porucznika, zamieszanego w ruch białoruski".

Міжволі ўспомніла я пра Сяргея Новіка-Пеюна, які на год да сваёй смерці ўспамінаў пра сустрэчу з Казлоўшчыкам і Альбінам Стаповічам у Кушаляў у Хэлмне на Памор'і: „Сядзелі мы вечарам у парку і доўга гаманілі пра нашу Беларусь". А быў гэта 1927 год. Казлоўшчык тады пісаў у „Беларускую крыніцу", пасля ў 1933 г., шукаючы нейкага выхаду, трэццяга шляху, заангажаваўся ў беларускую нацыянал-сацыялістычную плынь. „Верым, што беларускі народ, каторага даўнейшая культура кіравала вялікай Беларуска-Літоўскай дзяржавай, які падчас сваёй палітычнай спячкі, паўсталай праз ганебнае рэнегацтва тагачасных шляхецкіх павадыроў нацыі, даў палякам Міцкевічаў, Касцюшкаў, маскалям — Дастаеўскіх, Глінкаў — ёсць здольным па сваёй уласнай волі сарганізаваць сваё палітычнае і гаспадарчае жыццё і стацца незалежным і суверэнным сябрам у сям'і вольных народаў", — пісаў з сябрамі Альбінам Стаповічам, Фабіянам Акінчыцам, Антонам Данусэвічам і Язэпам Кратовічам у тэзісах беларускіх нацыянал-сацыялістаў.

Нечаканая трагічная смерць так і не дазволіла Уладыславу Казлоўскаму дачакацца беларускай незалежнасці. Але не дачакалі яе і тыя, якім удалося пражыць жахі вайны.

**Лена Глагоўская**

PS. Пра маё падарожжа ў Залессе чытач можа знайсці ў кастрычніцкім нумары „Czasopisa".

## На чужыне

Далёка ў чужыну я доляй загнаны
гарую й сумую па родненькім Краю:
Ня чую тут мовы старонкі задумнай,
ні нашае песьні прыгожай, хоць сумнай.
Няма тут мне мілых братоў Беларусаў
і шчырых, прыемных і добрых іх душаў.
Няма тут палосак-істужак вузенькіх,
мяжамі абшытых і мне дарагенькіх.
Ня віджу ўзгоркаў, кусточкаў, каменьняў,
балот ды імшараў і хатак з бярвеньняў,
Тых хатак-крывуляк, саломяных стрэхаў,
а пры іх на жэрдзях паўтыканых вехаў.
На прызьбе сядзячых ня віджу красуняў:
Маланкаў, Гануляў, Катрынаў, Настуляў.
Ня чую іх казак, гаворкаў іх сьмешных,
ані іх прыказак і жартаў пацешных.
Ўсе гэты прыкметы, другім мо благенькі,
аднак мне ўсе родны і ўсе дарагенькі.
Яны выяўляюць дух вёскі „мужыцкай"
й даюць абразок нам з старонкі Крывіцкай;
Старонкі Крывіцкай — маёй Роднай Маці,
якой ланцугі я хацеў бы парваці,
Якой у чужыне жыццё больш шаную,
аб ёй у дзень і ў ночы я думкі тут сную.
А дух мой ня мае тут мілай пацехі
і рвецца заўсёды да роднае стрэхі.
Адну толькі маю разрыўку тут годну:
калі вазьму кніжку і газетачку родну.
Прыемна і ўважна чытаю балонкі,
шукаючы вестак із роднай Старонкі.
І ўсею душою лячу да Айчыны,
пляную ў думках вялікія чыны.

**Казлоўшчык**

*„Беларуская крыніца", № 37 ад 9.09.1927 г., с.2.*

## Новыя вершы

**Барыс Руско**

### Сумненне

Куды іду я?
цені спуталі ногі,
а імгла,
белая, як снег,
ля варот зрэнак спынілася.
Дзе тыя бакі свету?
Толькі захад
паўзе чорнай ноччу
і бездань пад нагамі.
Дзе братні гоман?
У вушах вецер калючы
і будняў шэрых хіхіканне.

### Пасля роздуму

Я на адхоне часу,
а жыццё пад нагамі,
як высахлае рэчышча
старой ракі.
Куды нацэлены
апошні парыў ветру,
і апошні бляск світання,
і апошні крок чалавечы?
Прастору згарнуў я ў трубку,
сціснуў у руцэ
і сню.

### Арэх

На стале торт,
а жыццё цвёрдае,
у шкарлупіне дня,
з крывёй на далонях.
І толькі шчыпцы для арэхаў
крышаць без болю
зменлівасць лёсу.

### Дзень

Не адвярнуся —
за плячыма попел,
не гляну ў ноч
на пляжу світання,
не паўтару
пагаслай памяці,
не адгукнуся
на плач рэха.
Цень часу
шліфуе паверхню,
шыпы мякчэюць
і спее радасць.

### Уяўны час

Слухаю Гаўкінга.
Час перпендыкулярны.
Зыходжу з гары
з кніжкай
набрынялай ведамі,
а свет без берагоў,
і смяротны.

### Бульба

Бульба ў баразне,
як слімак у шкарлупіне,
маўчыць.
Цягне гарам.
Самаачышчэнне
і смак надзеі
на шчодрую восень.

## Якія мы людзі

# Дом

Звонку дом быў шэры, ніякі. Нават драбніцай не вылучаўся з шэрагу падобных дамоў. Высокі і вузкі, ён напамінаў мне ў нечым шпакоўню.

Усім сваім выглядам дом, здаецца, крычаў выпадковаму прахожаму: глядзіце, які я скромны і незаможны! Дом быў такі, як і трэба было ў мінулую эпоху: зверху — бункер, затое ў сярэдзіне... Што было ў сярэдзіне, вядома, не кожнаму было дадзена ўбачыць.

Я выпадкова апынулася ў гэтым доме, паколькі мяне прасілі перадаць невялічкую пасылку яго гаспадарам, нядаўнім вяскоўцам, якім пашанцавала „выйсці ў людзі".

Гаспадар і гаспадыня ўжо чакалі мяне. Выглядалі вельмі святочна, на пальцах гаспадыні я налічыла сем пярсцёнкаў, а былі ж яшчэ ў золаце вушы, шыя і рука з бранзалеткамі.

Я спадзявалася, што перадам тое, што мела перадаць, і хутка паеду дахаты. Але дзе там! Мяне пачаставалі кавай, а пасля пачалі абводзіць па паверхах гэтага дома.

Мушу прызнацца, што, хаця жыву я ў шматкватэрным блёку, люблю паглядзець, як жывуць багатыя людзі. Аднак больш за ўсё прыцягвае маю ўвагу тое, як, а не за колькі, абсталявана гэта хата. Кожны ж чалавек укладае ў сваю хату часцінку сэрца і таму яго ўласны куток — гэта як бы часцінка ягонай душы. Прыемна часам глянуць на прыгожае, быццам твор мастацтва, жыллё.

На першым паверсе былі чатыры пакоі. У салоне мы пілі каву. Мэбля, быццам з эпохі Людвіка XIV, упрыгожвала гэты пакой. Была яна бела-салатавага колеру, з пазалотай і гнутымі ножкамі. Са светлага атласу ці бракату былі зроблены мяккія пуфы і канапа. У такім жа стылі быў тут зроблены белы мармуровы камін. Побач стаялі ў спецыяльным посудзе залацістыя прылады для яго. Нідзе — ні пылінкі, а каля каміна — ані следу вугалю ці дроў.

З салона былі адчынены шырокія дзверы ў банкетную залу. Там стаяў даўжэзны цёмны стол, а каля яго — дваццаць шэсць аднолькавых стуляў-крэсел. Па абодвух баках гэтай залы знаходзіліся крэдэнсы на ўсю сцяну, якія ламаліся ад посуду.

Яшчэ на гэтым паверсе была спальня з шырачэзным рэзбленым ложкам і такой жа стылёвай шафай цёмнакарычневага колеру. Ногі проста тапіліся ў мяккім дыване.

Чацвёртым пакоем на першым паверсе была кухня. Што гэта была за кухня! Цацка, а не кухня. Усё пад колер — і сцены, і падлога, і ракавіны ды лядоўкі-маразілкі замежныя. Фіранчыкі на вокнах, быццам з байкі. Усё было крыштальна чыстае. „Бадай вы мала гатуеце", — сказала я мімаходам. „А мы ямо на працы", — растлумачыла мне гаспадыня.

На другім паверсе былі чатыры ідэнтычныя пакоі. Тут усё было абстаўлена мэбляй у сучасным стылі. У пакоі над салонам можна было даслоўна плюхнуцца ў крэсла ці на канапу, усё даслоўна калыхалася, мо мяккая мэбля была з вадою, як вадзяны ложак...

Была тут яшчэ адна спальня, з сучаснай мэбляй, і толькі ў кабінеце гаспадара стаяў старадаўні, вялізны пісьмовы стол. У апошнім пакоі гаспадыня наладзіла сабе нешта накшталт кравецкай майстэрні. Стаяла тут прыгожая швейная машынка, а таксама манекен, на якім вісела яе новая бальная сукенка. Дзве сценкі былі люстраныя. І тут было чыста, быццам бы ніхто нічога тут не рабіў. „Няма дня, каб я не прайшлася з анучай па ўсіх пакоях", — заўважыла гаспадыня, убачыўшы маё здзіўленне. „Калі яна толькі гэта і робіць? — падумала я. — Працуе ж!"

Мяне павялі на наступны паверх. Там знаходзіўся гасцінны пакой і цудоўнай прыгажосці лазенка з вялікай круглай ваннай проста з Ізраіля. На астатняй плошчы апошняга паверха было нешта накшталт кавярні з трыма сталамі, а пры кожным — чатыры мяккія крэслы; кожны камплект іншага адцення.

Мы сыходзілі ўніз, і гаспадары гэтай хаты пачалі мяне запрашаць, каб я наведала іх яшчэ калі-небудзь. „А куды вядуць гэтыя сходы?" — разахвоцілася я, глянуўшы ўніз і ўспомніўшы, што ёсць жа яшчэ так званы „высокі партэр". „Ат, там у нас чорная кухня, ведаеце, як гасцей прымаем, дык трэба ж больш гатаваць!" — адказала пані дома. „Можна глянуць?!" — спыталася я і да сёння не магу сабе дараваць сваёй наіўнасці. Мы не выйшлі на панадворак, а яшчэ сышлі паглядзець уніз. Гаспадыня з гаспадаром былі збянтэжаныя: відаць, паказванне таго, што знаходзілася на самым нізе, не было ў іх планах.

Сапраўды, на гэтым „высокім" партэры, а фактычна ў пограбе, знаходзілася кухня з плітой на вугаль і стаяў стол, накрыты цыратай, ды нейкая шафка, дзе за шклом стаялі два кубкі і некалькі талерак.

Побач з кухняй знаходзіліся два мікраскапічныя пакойчыкі. Дзверы ўсюды былі адчынены, і ў першым пакоі я ўбачыла стары тэлевізар, два абдзертыя крэслы перад ім ды невялічкую палічку з прафесіянальнымі кніжкамі гаспадароў. У другім пакойчыку стаяў стары, аблезлы тапчан, а на ім цёмная разваленая пасцель. І яшчэ там была дапатопная шафа для вопраткі. З першага пакоя біў смурод танных папяросаў, так што цяжка тут было дыхаць.

І тады мяне цюкнула: дык гэта ж яны тут жывуць, тут ядуць, глядзяць тэлевізар, спяць. А рэшта — усё на паказ. Сын даўно за граніцай і вяртацца не збіраецца, а яны сядзяць тут, у гэтым смуродзе, быццам нейкія ваўкалакі, і хваляцца перад кожным, хто наведае іх, сваім „палацам".

Ну, і навошта, дакараю я сябе сёння, было заглядаць у іх душу? Ці ж не лепш было б паглядзець тое, што паказалі, і ісці сваёй дарогай... Няхай бы застаўся добры ўспамін — і годзе. Але хто ж бы падумаў, што вось жывуць жа людзі побач з харaством, якое самі сабе стварылі, а маглі ж бы жыць у гэтым хараcтве...

* * *

Люблю дамы не мёртвыя, а жывыя. Тыя, дзе нешта дзеецца, дзе пахне варaнам, дзе круцяцца дзеці або ўнукі. За дамамі-музеямі не прападу, хаця агледзець іх у наіўнай веры, што можна так „чыста" жыць, часамі хочацца.

**Ада Чачуга**

**Максім Танк**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1979

**16.IV.** Не браўся за свой дзённік, бо ўсе дні запоўнены невясёлымі справамі. Пакрыўдзіўся Якаў, што некаторыя яго пераклады раскрытыкавалі ў „Дружбе народов", быццам, я ў гэтым вінаваты. Адмовіўся перакладаць маю паэму пра Дворнікава, быццам, гэта не ягу ключы, але ўзяўся за пераклад даўжэзнай і нуднай паэмы „Вострая любві" Расула Гамзатава. Агулам, справы з перакладчыкамі беларускай літаратуры маглі б быць лепшымі. Але мы не ўмеем кадзіць перакладчыкам. Таму яны больш цягнуцца да літаратур шашлычных, вінаградных, а не да нашай — бульбяной.

**25.IV.** Ляжу ў Кунцаве. Далі ўколы магнезіі, дзібазолу, а ціск усё не спадае. Недзе ў суседняй палаце ляжыць Пятрусь. Трэба будзе сазваніцца з ім. Відаць, тут доўга пратрымаюць мяне.

**5.V.** Гаварыў па тэлефоне з Любашай. Быў Саша, які прыехаў на пару дзён з Масквы. А ў Мінску рыхтуюцца да розных сустрэч, паездкі ў Азербайджан, да нарады перакладчыкаў. Ну, зараз з мяне слабы ўдзельнік гэтых мерапрыемстваў.

**6.V.** За акном чуюцца першыя перакаты веснавога грому. Пішу „Сярэдні верш пра каханне".

І так, да маіх сардэчных недамаганняў адкрылі тут яшчэ язву і эрозію страўніка. Глытаю безліч розных таблетак. Не ведаю, як я з усяго гэтага выкарабкаюся. Усяго скалолі. Сяджу на строгай дыеце. Прапануюць на рэабілітацыю паехаць на Каўказ, або ў падмаскоўны санаторый. Відаць, рамонт мой зацягнецца. А дома чакае столькі неадкладных спраў! Накідаў верш „Вецер з Хірасімы".

**20.V.** Запісаў ад свайго сімпатычнага ўрача Г. В. Чарнышовай (дачка былога першага сакратара Мінскага абкама) распарадак свайго далейшага жыцця-быцця, бо праз пару дзён еду далечвацца ў падмаскоўны санаторый імя Герцэна.

**23.V.** Прачытаў у „Літаратуры і мастацтве" артыкул Уладзіміра Калесніка пра паэму „Мікалай Дворнікаў". Так і не зразумеў, якая гэта паэма. Сустрэў В. Друніну з Каплерам, сярод сясцёр санаторыя ёсць некалькі маіх зямлячак — з Магілёва, з Пружан. Напала на мяне нейкая тувімаўская хандра ўныньская. Накідаў успаміны пра Аркадзя Куляшова.

**17.VI.** Апошні дзень у санаторыі. Абышоў усе лясныя, дрымотныя сасняκі ды ельнікі. Сабраў усе свае часопісы, нататкі. Відаць, у Маскве яшчэ спынюся на пару дзён, а там — дамоў. Як там мае нарачанцы? Верачка, здаецца, збіраецца з Дзянісам у Сімферопаль.

**3.VIII.** Першы дзень майго адпачынку на Нарачы. Якое шчодрае лета на яблыкі. Заходзіў Пётра Сергіевіч. Чамусьці наш Саюз пісьменнікаў яшчэ не разлічыўся з ім за партрэт Ф. Скарыны. Трэба будзе даведацца, што за прычына. Са страхам думаю, што гэтымі днямі прыедуць з тэлестудыі мяне здымаць. Хоць ты куды ўцякай.

**5.VIII.** Нядзеля. Вецер. Дождж. Уся зямля ў агародзе ўсыпана ападам. Узяўся за пераклад Э. Капішэўскага. Мне здаецца, пераклад павінен гучаць натуральна на мове, на якую перакладаецца, і адначасна захаваць нешта ад арыгінала, хоць такога спалучэння вельмі цяжка дабіцца.

**8.VIII.** Учора цэлы дзень правёў з апаратарамі тэлестудыі. Былі ў вёсцы Баяры, праз якую калісьці ў 1934 годзе мяне скутым гналі ў Паставы. Якія тут прыгожыя ваколіцы!

Прыехаў Вячаслаў Рагойша. З'ездзілі мы з ім на Гатаўскі бераг Нарачы. Купіў у рыбакоў некалькі ўгрoў, судакоў і велізарнага шчупака. Будзе хоць чым пачаставаць гасцей.

**15.VIII.** У самы разгар рамонту дачы прыехаў Іван Шамякін з сынам. Радыё перадало, што разбіўся наш самалёт і загінулі ўсе пасажыры. Калісьці Марта Эгерт, будучы жонкай Яна Кепуры, ніколі не ляцела са сваім мужам у адным самалёце. „Калі што здарыцца, — казала, — хоць адзін з нас застанецца гадаваць, даглядаць дзяцей".

***(працяг будзе)***

# З'езд Брацтва

У днях 8-10 лістапада г.г. прайшоў у Супраслі З'езд Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы. Навукова-пазнавальная частка з'езда ахапіла даклады на тэму Брэсцкай уніі: „Projekty unijne względem prawosławnych do XVI wieku oraz geneza unii brzeskiej" **а. Рыгора Сасны**, „Bractwa cerkiewne wobec unii brzeskiej" **д-ра Антона Мірановіча**, „Przebieg i skutki unii brzeskiej" **Мікалая Гайдука** і „Projekty unijne względem prawosławnych w XIX i XX wieku" **а. Дарафея Савіцкага**.

Вельмі займальным для маладых братчыкаў аказаўся даклад д-ра А. Мірановіча, у якім ён жыва і цікава распавёў пра дзейнасць царкоўных брацтваў у XVI ст. Пытанням да дакладчыка, здавалася, не будзе канца. Характар жа гэтых пытанняў сведчыў, што моладзь шукае параляляў паміж формай сучаснага брацтва і гістарычнага. Параляляў такіх, як згодна адзначылі дакладчык і **а. Лявонцій Тафілюк** — апякун Брацтва праваслаўнай моладзі, праводзіць нельга па некалькіх прычынах. Сучасная сітуацыя праваслаўя зусім не нагадвае той з канца XVI ст. Іншымі былі таксама і прынцыпы, на якіх гуртавалася гістарычнае брацтва — было яно групай адстойвання сацыяльнага, грамадскага і палітычнага інтарэсаў праваслаўнай грамады, а не свабоднай асацыяцыяй сяброўскага характару, як гэта маецца ў выпадку сучаснага Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы.

**(ам)**

# Юрлівы пан

**Пра тое, што штосьці нядобрае дзеецца з дзяўчынкай, маці ўбачыла, калі Ленцы пачало ў гэтым месцы гнаіцца. — Мама, ён мяне там зачапіў пазуром! — заплакала шасцікласніца школы ў Лукашках Г-цкай гміны.**

Было гэта

**на ўроку**

матэматыкі. Міхал Дубко, адзін са старэйшых настаўнікаў у лукашкоўскай школе, засунуў руку пад кароценькую спаднічку Галенкі Васькові, запакаваў пальцы пад майтачкі і, пагомтаўшы крыху пульхнае цела, ушчыпнуў. Дзяўчынка расплакалася. Аднакласнікі — хто захіхікаў, хто па-старому глядзеў у акно. Такое здаралася не першы раз (і не з аднолі дзяўчынкай). Ніводная з іх, аднак, нікому не паскардзілася — ні дырэктару, ні бацькам. Сорамна ж! Андруша Катлоўскі з сёмага класа адважыўся, пайшоў з гэтай справай да дырэктаркі, Яўгеніі Хановіч, расказаў пра нахабныя паводзіны матэматыка. Дырэктарка абурылася і выклала ў школу... Андрушавага бацьку. А Міхал Дубко смехам-жартам амаль на кожным уроку ў розных класах шчыпаў дзяўчатак у грудзі, на кантрольных, нібыта правяраючы, ці вучаніцы не спісваюць, заглядаў ім пад панчохі і спадніцы ды ў бюстгальтар, калі якая ўжо яго насіла. „Горшых” вучаніц пакідаў пасля ўрокаў, каб паправіць ацэнкі. Найчасцей

**„папраўляла матэматыку”**

Ліза Васьковіч, Ленчына сястра, васьмікласніца, здаровая, высокая панна, што выбіралася вучыцца ў Беласток на медсястру. Дзіўна, з іншых прадметаў не было ў яе двоек, ды і тройкі рэдка трапляліся. Цяпер, дзесяць гадоў ад тае справы, сустрэлася я з паняй Лізай Івановіч, медсястрой, маці дзвюх дачушак. І сёння, успамінаючы „залёты” настаўніка, яна чырванее.

— Клікаў мяне ў кабінет пасля ўрокаў, клаў на стол класны дзённік. Ставіў мяне пад дошкай, падымаў блузку. Ставаў з'заду, моцна прыціскаўся да мяне, соп, слініўся, аж цякло мне па шыі, моцна сціскаў за грудзі, пасля ўсоўваў руку ў майткі, дзейнічаў пальцам... Мне было так агідна і сорамна, што адразу бегла ў туалет на падворку, нават не зашпіліўшыся, ванітавала. Думаю, што не раз мяне бачылі нават настаўнікі, але ўсе маўчалі пра паводзіны свайго калегі. Вядома, вельмі брыдкая справа. Не хачу я, каб мае дочкі такое ў жыцці перажылі! Я праз тую матэматыку дагэтуль сню кашмары, як уцякаю па нейкіх доўгіх калідорах.

— Думаю, што калі б Дубко сапраўды згвалтаваў якую дзяўчынку, справа ляснула б раней, — кажа маці Ленкі і Лізы, Ганна Васьковіч. — Я тады, як Ленка мне ўсё сказала, як той стары дзед да яе лезе, кажу ёй:

**бяры пенал і валі**

яму ў морду, калі толькі той распуснік да цябе набліжыцца!

Ленка так і зрабіла. Калі на ўроку настаўнік выклікаў яе да дошкі, схапіла свой драўляны пенал са школьнымі прыладамі і рашучым крокам пайшла адказваць. Настаўнік узяў яе за падбародак, пачаў свой залётны танец вакол вучаніцы, пазіраючы на маленькія яшчэ грудзі, што вытыркаліся пад швэдрыкам, пасля абняў дзяўчынку ў таліі. Вучаніца ўзяла размах і з усяе сілы ўдарыла матэматыка ў лоб. Дубко закрычаў не сваім голасам. Ленка з віскам біла настаўніка паміж вачэй. Спалоханы вучні з крыкам выбеглі з класа. Дырэктарка выклала скорую дапамогу і міліцыю. — Не, —

**не трэба міліцыі!**

— прасіўся настаўнік, выціраючы кроў з твару.

Лукашкі, вёска тады яшчэ людная, уся збеглася ў сваю „тысячагодку”. Ганна Васьковіч паведаміла міліцыянтаў пра ненармальныя паводзіны старога і паважанага настаўніка.

— За такі паклёп пойдзеце, пані Васьковіч, у турму! — крычала дырэктарка. — Не хачу больш бачыць у нашай школе вашых дзяцей! Вазіце іх штодзень у Г.! Яны псіхічна хворыя, як і вы сама! Ніхто з нас тут не пацвердзіць таго, што вы тут вярзеце! Ні настаўнікі, ні вучні!

Дзеці і настаўнікі сапраўды маўчалі на следстве. Суседняя вёска, Гнёты, адкуль паходзіў Міхал Дубко і куды вярнуўся пасля студыяў і жыў з сям'ёй, перастала гаварыць з лукашкоўцамі. Усе ж ведалі Мішу Дубко, яго бацькоў, жонку, дзяцей, як парадачных суседзяў. Адукаваны ж чалавек, прыкладны бацька і муж! А тыя дзве Васьковічанкі-выскачкі, выдры, як і іхняя маці, Гандзя! Хто пацвердзіць такую дурную і страшную выдумку, што скажа кепскае пра старога і добрага настаўніка?! Хіба то сам дурань і прахвост, як... тыя! Усё ж, знайшліся асобы, якія не пабаяліся сказаць праўду.

**Толькі Зося і Гражынка**

не пабаяліся ні дырэктаркі, якая пагражала слабымі ацэнкамі на паўгоддзе восьмага класа, ні просьбамі і грозьбамі Дубко, які заявіўся з паўлітрай і грашыма спачатку ў Зосінай маці Анелі Засімюк, а пасля ў Валодзі Кардася, Гражынчынага бацькі. Са страхам і недаўменнем дзяўчынкі расказвалі пра брыдкія справы. Валодзя Кардась сказаў дачцэ: „Не бойся, Гражына, на свеце справядліва мае быць. Трэба караць кепскіх людзей. Не бойся, папраўдзе ўсе ў нас у вёсцы з намі, толькі страх ім вочы засціў. Не дамо цябе ў крыўду ніякім гнідам!”

**Смярдзючая справа**

была, — кажа Гражына, цяпер Каляга, сёння кухарка ў адных з беластоцкіх ясляў. — Калі б не мы, дзве дзяўчынкі, стары юрлівы настаўнік далей бы распусьнічаў, даводзіў дзяцей да страт у псіхіцы. А найбольшая шкода была б, калі б далей усе бачылі, што такая брыда робіцца бяскарна, пад прыплюшчанымі вачамі асяроддзя.

Выкінулі са школы ў Лукашках Міхала Дубко. Не, не выкінулі. Адправілі на пенсію, бо ўжо была яму пара. І з Гнётаў Дубкі з'ехалі ў Беласток, каб людзям у вочы не глядзець. Найбольш перажывалі жонка і дочкі. Дагэтуль яны перакананы, што ўсё гэта быў паклёп і помста за двойкі.

І школы ў Лукашках ужо няма.

**Міра Лукша**

*(Прозвішчы перастаўлены і назвы зменены)*

# Горкая Доля

**Усё было ў жыцці Васіля С. Дзве жонкі-прыгажуні, лёгкая, чыстая праца, разумныя дзеткі. Згубіла гарэлка? Ці доля была наканавана такая?**

Вярнуўся пасля чвэрцьвекавога гарадскога жыцця Васіль С. на бацькаўшчыну. Счарнелы, адчайна няшчасны, распіты. Хадзіў ён з хаты ў хату вяскоўцаў, дзе за кілішак дэнатурату і міску *таўканіцы* рубаў удавіцам дровы, расказваў старым кавалерам дэталі са свайго інтымнага жыцця, вешаў непатрэбных катоў і сабак.

— Кепскі я быў чалавек, — гаварыў ён, — горшы за звера якога. Раз напіцца задумаў пайсці. А жонка цяжарнай была. Засланіла сабой дзверы і раўці пачала. То я ёй у жывот са злосці нагой даў, у дзіцятка сваё ненароджанае.

Людзі баяліся расказаў Васіля С.

— Лепш ты б, сыночку, у царкву пайшоў, — раілі бабулі. — Богу аднаму такія тайны гаварыць, не нам грэшным.

Доўга ўгаварвалі Васіля С.

— Як жа ж мне да бацюшкі ісці, як я дваццаць пяць гадоў без рэлігіі жыў, — бунтаваўся наш герой.

— Ідзі, ідзі, людзі з табой гаварыць баяцца, — казалі Васілю С. — Дзеці і тыя Горкаю Доляй цябе абзываюць.

Не было іншай надзеі Васілю С. Пайшоў ён у адну нядзелю ў сваю царкоўку. Тут прыгануласяя яму дзяцінства, бацькі, усе добрыя здарэнні з мінулага. Васілю замроілася, што неўзабаве адляціць у лепшы свет, дзе людзі сябе кахаюць, дзе мацнейшы шануе слабейшага, дзе душа весяліцца і без гарэлкі.

— Тады то яго як шалёнага трасло, — успаміналі пазней вясковыя бабулі. — Наш Вася як жараба расплакаўся.

Адмяніла царква Васіля С. Кінуў гарэлку, курэнне, знайшоў працу. Жонка, варшавянка, з дзяцьмі ў адведкі прыехала. Вярнуцца ў Варшаву намаўляць стала.

— Там мне канец будзе, — тлумачыў Васіль С. — Прыязджайце сюды, тут хата бацькоў здаровая, сад, свежае паветра, людзі добрыя.

— Будзем перапісвацца, — прапанавала на развітанне жонка-варшавянка. Не ўяўляла яна свайго жыцця ў пушчанскай, праваслаўнай вёсцы.

— Тут з дзікунамі з нуды памерці прыйшлося б, — пісала яна ў адным лісце Васілю С.

* * *

— Вам бы з газеты якую бабку выпісаць, — раілі Васілю С. вясковыя жанчыны, аднавяскоўкі. — Самому сумна ў нас гараваць, — пераконвалі.

Васілю С. падабаліся такія размовы. Па-ранейшаму рубаў ён бабулям дровы, давозіў з Гайнаўкі пакупкі, вазіў іх на *малюху* на ўсе царкоўныя службы.

Аднаго восеньскага дня атрымаў пісьмо і фатаграфію ад маладой, стройнай брунеткі. „Najbardziej cenię u ludzi dobre serce, — пісала яна. — Jestem jak i ty po „przejściach”. Razem odnajdziemy nasze szczęście”.

Паехаў Васіль С. у Люблін, не чакаючы і не слухаючы крытычных заўваг аднавяскоўцаў.

— Я то бяду нейкую прадчувала, — гаварыла зычлівая Васілю С. суседка. — Вядома, што ў газету, — аргументавала яна, — анёлы не пішуць.

Так і было. Не паспеў ажаніцца Васіль С., як прывід алкагалізму зноў паявіўся ў ягоных снах.

— Гэта напэўна ад хваляванння, — суцяшаў сябе наш герой.

Месяц пасля вяселля жонка прыйшла напітая.

— A co ty, kacapie, będziesz mnie uczył, — адсекла на вострыя пратэст мужа. — S... do swojej puszczy, — істэрычна крычала новая жонка-прыгажуня. Пазней сказала яму, што брыдзіцца рускімі.

— Jak wesz siedzisz na moim karku, — папракала яна кожнай скібачкай хлеба.

Праваліўся зноў Васіль С. у кашмарныя ўспаміны. Вярнуўся пазней у сваю вёску, зноў распіты і азвярэлы.

* * *

Васіль С. выводзіўся са слаўнага роду. Бацькоў шанавалі і ведалі як таленавітых, добрых людзей на ўсім Падляшшы. Дзяцінства Васіля С. было дастатняе і вясёлае. У людзі пайшоў, як многія беларускія хлопцы, — тады, калі прызвалі ў войска. Кавалерам быў стройным і талковым. Будучы жаўнерам раскахаў у сабе варшавянку-прыгажуню. З ёю нажыў дзяцей, маёмасць, дастаў добрую працу. Але гарадское жыццё не падабалася Васілю С. Туга па роднай вёсцы, мове, рэлігіі, праследавала кожны яго ўчынак. Сярод мяшчан адчуваў сябе горшым, непатрэбным. Выпіваць пачаў яшчэ ў школьныя гады. Але тады ніхто не звяртаў увагі на такія дурноты. У пушчанскай вёсачцы прыгаварвалі нават дзецям, што „толькі сволачы і хворыя не п'юць”.

**Ева Сцепанюк**

# Бар пад бярозай

*(працяг са стар. 1)*

маў-бараў шануюць яго спажыўцоў — дбаюць як пра добрую якасць напітку, так і пра эстэтыку месца. Не здараецца ім, каб кліентаў пасылалі апаражняцца ў суседскі бульбянік (хаця, у прынцыпе, такое бывае). Вяршыню эстэтства выявіў адзін рэстаратар з Орлі, калі ў беларускай тэлеперадачы сказаў, што ў яго планах добраўпарадкавання навакольнага пляца ёсць нават дзіцячы басейн.

Думаю, што цікавымі былі б доследы зменаў назваў бараў, як пэўнага рэкламнага прыёму, але і імкнення прыдбаць ідэнтыфікацыю кліентаў з месцам. Наогул аджылі свой век агідныя сваімі асацыяцыямі „экспрэсавыя” ці „універсальныя” бары. Не ў пашане таксама нейтральныя батанічныя „яжамбінкі”, „калінкі” і „малінкі”. Захаваліся сянкевічаўскія назвы элітарных каліс рэстаранаў: „Заглоба” ў Плёсках, „Кміціц” і „Аленька” ў Сямятычах ды нават даюць прыклад іншым. Нядаўна ў падбельскіх Праневічах адкрылі клуб, якога назоў „Кэтлінг” адклікаецца да тае самае літаратурнае спадчыны.




Стваральнікі гасподы ў Нараўцы праявілі замілаванне да паэтычнай вобразнасці, даючы ёй назоў „Чар пушчы”. Да гэтай самай катэгорыі можна аднесці і „Бар пад бярозамі” каля Храбалоў, па шашы Беласток—Бельск. Але найчасцей у назвах сустракаем імёны: „У Казіка”, „Здзіха”, „Вітка” ці ў іншага „Болька”. Найпрыгажэй звалася крама ў Галадах: „Miki und Leoncjo”. Але Мікі і Лявонцыя праехаліся на гандлі, а новы ўласнік пераназваў яе досьць трывіяльна: „A, B, C”.

Толькі фармальна можам паставіць у адзін рад з імі вядомую гайнаўскую піўнушку „У Валодзі”, назоў якое не мае нічога супольнага з імем уладальніка, толькі падкрэслівае характар месца — своеасаблівай галерэі астаткаў камунізму (памянёны Валодзя, гэта не хто іншы, як вялікі Ільіч).

Часамі забеганыя прадаўцы не праяўляюць ніякага таленту адносна назваў, задавальняючыся вялікімі, крыху касаватымі літарамі: „БАР”. Гэта асабліва распаўсюджаная з'ява ля дарог; відаць, падарожным важны, так сказаць, змест, а не форма.

* * *

„Час такі і век такі, піце піва мужыкі”, — спяваецца ў песні. Піце, пакуль магутным гэтага свету не прыйшла ў галаву ідэя зноў паэксперыментаваць у нас з нейкім сацыялізмам. Капіталізм, якім бы ён не быў, тым розніцца ад сацыялізму, што і публічную прыбіральню пераробіць на прыстойную піўнушку. У сацыялізме бывае толькі наадварот.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Позірк у мінулае

**24 лістапада**

1632 г. — нар. Барух Спіноза, нідэрландскі філосаф.

1864 г. — нар. Анры дэ Тулуз-Латрэк, французскі мастак.

**25 лістапада**

1562 г. — нар. Лопэ дэ Вэга, іспанскі паэт.

1959 г. — памёр Жэрар Філіп, французскі акцёр.

1968 г. — памёр Аптан Сінклер, амерыканскі пісьменнік.

**26 лістапада**

1855 г. — памёр Адам Міцкевіч, польскі паэт.

1894 г. — нар. Норберт Вінэр, амерыканскі матэматык.

1916 г. — канец бітвы над Сомай, якая каштавала жыццё 1,2 млн. чалавек.

1926 г. — памёр Джон Браўнінг, амерыканскі канструктар аўтаматычнага ружжа.

1930 г. — нар. пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

**27 лістапада**

511 г. — памёр Хлодвіг, заснавальнік дзяржавы франкаў.

1701 г. — нар. Андэрс Цэльсій, шведскі астраном.

1874 г. — нар. Хаім Герцаг (у Матылях на Гродзеншчыне), яўрэйскі біяхімік і палітык, першы прэзідэнт Ізраіля.

1919 г. — падпісанне Нёйскага дагавора, у сілу якога Балгарыя страціла ў карысць Грэцыі Фракію, а разам з ёю і доступ да Эгейскага мора. Вызначана таксама граніцу між Балгарыяй і Сербіяй, пакідаючы за апошняй Македонію.

1920 г. — пачатак Слуцкага паўстання.

1942 г. — нар. Джымі Гендрыкс, амерыканскі рок-гітарыст.

1971 г. — савецкі зонд „Марс-2" упершыню даляцеў да Марса і разбіўся аб яго паверхню.

**28 лістапада**

1812 г. — канец пераправы разбітых напалеонаўскіх войскаў цераз Бярозу.

1820 г. — нар. Фрыдрых Энгельс, нямецкі філосаф.

1848 г. — Берн назначаны сталіцай Швейцарыі.

1880 г. — нар. Аляксандр Блок, расейскі паэт.

1912 г. — Ісмаіль Кемаль Бей аб'явіў незалежнасць Албаніі ад Турцыі.

1941 г. — пачатак контрнаступлення Чырвонай Арміі пад Масквою.

1943 г. — пачатак канферэнцыі ў Тэгеране, дзе альянты ўзгоднілі супольныя дзеянні супраць Рэйха і ягоных саюзнікаў.

1954 г. — памёр Энрыка Фермі, італьянскі фізік.

**29 лістапада**

1932 г. — нар. Жак Шырак, французскі палітык.

1938 г. — у СССР расстраляны Браніслаў Тарашкевіч, беларускі вучоны і палітык.

1947 г. — Генеральная Асамблея ААН вырашыла падзяліць Палесціну на яўрэйскую і арабскую часці.

1978 г. — прапрэм'ера оперы „Страчаны рай" Кшыштафа Пэндэрэцкага ў Чыкага.

**30 лістапада**

1667 г. — нар. Джонатан Свіфт, ірландскі пісьменнік.

1835 г. — нар. Марк Твен, амерыканскі пісьменнік.

1846 г. — памёр Ферэнц Ліст, венгерскі кампазітар.

1874 г. — нар. Уінстан Чэрчыль, брытанскі палітык.

1900 г. — памёр Аскар Уайльд, ірландскі паэт.

1939 г. — налётам на Хельсінкі пачалася савецка-фінская вайна. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Вёска

Вёска — прыгожы краявід
І цудоўны від;
Чыстая атмасфера
І Хрыстова вера.
Ды каб яе трымацца,
Не трэба зламаццa,
Бо калі не так —
Ты д'ябла сваяк.
Не мацярыцца
І з нікім не біцца,
Гарэлкі не хлябтаць —
Ёй адпор даваць.
Не быць зладзеем
І неабыякавым падзеям,
Любіць сваю нацыю —
І будзем мець рацыю.
Вёска — рамантыка
Не любіць ілгуна заўзятага.
Яна сюжэт аповесці,
Дзе цікавыя навасці.
На вёсцы людзі цяжка працуюць,
Леткам коратка начуюць,
Праца працу паганяе
Ды і на роздумы дазваляе.
Вёска — жывы свет,
Дабівацца да сваіх мэт.
Сяляне жывуць мо і заможна,
Хаця бывае па-рознаму.
Маюць прыгожыя хаціны,
Сажалкі, а нават плаціны,
Прасторныя хлявы і клуні —
Гэта не санацыя панурая.
І на вёску завітаў прагрэс,
А цемра пакацілася ў лес.
Калісь мужык меў толькі кароўку,
А цяпер дзіва на яго панадворку:
Мае машынны парк,
Які вялікіх грошай варт.
Цяжкай працай гэта здабыў
І цярністы шлях адбыў.
Вёску не памяняю на горад,
Хаця я ўжо і не малад.
Горад, гэта для мяне гета,
А вёска — жывая і станоўчая мэта.

**Мікалай Панфілюк**

## Дзяды-„Задушкі"

Гэты цудоўны абычай польскай
культуры
Пераймае праваслаўны наш народ.
Яшчэ нядаўна ён чужы быў
па натуры
Ды вось сваім становіцца ўжо
каторы год.

У першы і другі дзень лістапада
На могілкі з'язджаюцца з наўкол.
Кожны як мог так дабіраўся
З розных старонак, гарадоў і сёл.

Гэтак жа ёсць і на маёй айчыне,
Дзе „польскія" і „рускія" ляжаць.
Мяжа на могілках іх толькі
раздзяляе,
Хаця не мяшае згодна ім спаць.

Свецяцца лямпачкі на многіх там
магілах,
Аднак здараюцца забытыя зусім.
Крыж спапахнеў у буйным
пустазеллі,
Ніхто не ставіць лямпачак такім.

Мне стала жаль, і лямпачку паставіў
На магілцы ля маіх бацькоў.
Над ёй я хвіліначку забавіў
Ды адышоў са спушчанай галавой.

**„Улас"**

## Ложак

Ложак — найважнейшая мэбля.
У ложку мы прыходзім на свет.
У ложку найчасцей паміраем.
У ложку найлепей адпачываем.
У ложку кахаюцца людзі.
Колькі шчаслівых і нешчаслівых
слоў пачуе нямы ложак.
Ложак людзей яднае а бывае
што назаўжды раздзяляе.

**Аўрора**

## Лістапад

Лістапад — то месяц смутны,
Восень ужо ідзе на спад.
Агольваюцца дрэвы ў лесе,
Пусташэюць луг і сад.
Грозная пара падходзіць
І для птушак, для звяроў.
Селяніну прыдбаць трэба
Пашу для сваіх кароў.
Ужо і ў парках, і на скверах
Лісце трэба прыбіраць.
А кветкі прыкрыць шчыльна,
Каб добра іх празімаваць.
Боты цёплыя купіць трэба,
Каб не мерзнуць нам зімой.
Шубу-футра сабе справіць,
Каб не страшны быў мароз.
Загатовіць дроў на зіму,
Каб хату добра абагрэць
Ды свае старыя косці
На ляжанцы разагрэць.
Тады нам не будуць страшны
Ані сцюжы, ні мароз,
Толькі будзем упіраць
У тэлеэкран свой нос.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! Аж успацеў я, калі прачнуўся. А прыснілася мне, што я еду на сваёй машыне. Еду па знаёмай вуліцы, мінаю якраз будынак, у якім месціцца ўстанова, у якой я працую.

І раптам бачу, што вуліцу збіраецца пераходзіць маладая жанчына з бацькам, відаць, вясковым чалавекам. Я пачынаю тармазіць, бо не ведаю, ці пойдуць яны мне ўпоперак: пераходу тут няма.

Раптам бачу, што жанчына затрымалася, убачыўшы маю машыну, а яе бацька, нават не глянуўшы ў мой бок, пераходзіць вуліцу ў недазволеным месцы. Што рабіць?! Я ўжо занадта блізка ад яго. Вельмі слізка!

І тады я рашаю павярнуць направа, дзе ёсць уезд у браму. Павярнуў я паволі, амаль перад самым чалавекам і паехаў у тую браму, але не магу затармазіць, бо так слізка. Вырашыў ехаць на бакавую сцяну, мо на ёй неяк затрымаю самаход. І сапраўды, машына затрымалася, упёрлася ў сцяну буферам, так што нічога не было пашкоджана.

Разварочваюся, каб выехаць ізноў на вуліцу, і бачу, што проста на мяне ідзе ў браму натоўп, мужчын дзесяць з грознымі мінамі. Я спужаўся: чаго ж яны ад мяне хочуць, я ж нікога не падбіў, а з'ехаў з вуліцы... Калі я, аднак, зраўняўся з імі, яны моўчкі прапусцілі мяне, быццам мяне гэта і не датычылася.

Выязджаю на вуліцу, а там поўна людзей, як заўсёды, калі здараецца нешчаслівы выпадак. На вуліцы ляжыць нерухома чалавек, быццам гэта той, што пераходзіў вуліцу перад маім самаходам, але не ў шэрай курткі, а ў карычневай. Яго паднялі нейкія людзі і панеслі ў „хуткую дапамогу". Не ведаю, ці яго падбіў нехта іншы, ці ён паваліўся, спужаўшыся мяне. Вельмі непакоюся, што можа прадвяшчаць гэты сон.

**Андрэй**

Андрэй! Сон гэты гаворыць аб тым, што тваю душу вярэдзіць непакой у толькі табе вядомай справе. Ты нечага баішся, страх паралізуе цябе. Думаю, аднак, што ўсё скончыцца добра, бо ты ж не быў прычынай катастрофы, а зрабіў усё, каб не дайшло да нешчаслівага выпадку.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 2. Марсель, французскі пісьменнік (1871—1922), 4. няўдачлівы чалавек, 6. наша планета, 7. дзіцячы курорт на Крыме, 9. лёгкаатлетычнае спаборніцтва, 11. вузкая паласа, ачышчаная ад лесу, 12. спецыяліст па хваробах вачэй, 13. там яблыкі, грушы, 15. напр. афганец, 17. абласны расейскі горад над ракой Сурай, 18. зборнік выбраных твораў, 19. легендарны фрыгійскі цар, які сваім дотыкам замяняў усе прадметы ў золата.

**Вертыкальна:** 1. старажытнае свята ўсходніх славян, 2. фаза Месяца, 3. аргенцінскі танец, 4. замяшчае кіраўніка, 5. аўтаномная краіна ў Іспаніі, 6. на 6-7 старонках „Нівы", 8. невялікая каса, 9. мужчынскі голас, 10. змяя, гадзюка, 14. задавальненне, 16. прадмет пакланення, 17. крылаты конь. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 40 н-ра:**

**Гарызантальна:** асот, хабар, упадак, хлор, сорам, балея, карнавал, мак, Нагасакі, трыбунал, яма, стрэльба, цеста, алень, Авен, прылік, сфера, твар.

**Вертыкальна:** балота, казак, саланіна, тур, Шагал, палец, мангуста, барацьба, мэта, Крым, паля, сіла, Алілуева, манера, цемра, столь, альфа, акт.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

*Ніва*

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Пародыі

**Ой, бярозы, ды сосны**

*Падаў я рукі соснам,*
*елкам, дубам...*
**Янка Целушэцкі**

*Добры дзень, сястра мая бяроза,*
*Прывітанне вам, браты дубы...*
**Ян Чыквін**

Тры бутэлькі „Русской" на дваіх
Мы ўзялі і едзем ў Белавежу,
Сярод соснаў і дубоў старых
Нас не ўбачаць нават з Белай вежы.
Пасля першай мы яшчэ трывалі,
Гутарку пра лірыку вялі.
Дрэвы лісцем жоўтым асыпалі,
Дываном служылі на зямлі.
Пасля трэцяй мы ужо спявалі,
Цалавалі сосны і дубы.
І бярозам рукі падавалі,
І шукалі п'яныя грыбы.
А пасля заснулі на паляне...
І было, гаротным, не да вершаў.
Хай заўсёды сняцца нашым Янам
Новыя выданні ў „Белавежы".

**Сяргей Чыгрын**

# Напамін

Усюды позна альбо рана —
Такі закон жыццёвых сіл —
І дужа грозныя тыраны
Ператвараюцца у пыл!

**Люцыян Шчасны**



*Малюнак Алега Папова*

# Ніўка










*Малюнак В. Гагалушкі*

# Спірытычны сеанс

Адбыўся чарговы спірытычны сеанс у інтэрнацыянальна-патрыятычным клубе „Шаманскі набор". На сустрэчу з ветэранамі войнаў і паходаў, а таксама актывістамі баркашоўска-жырыноўскіх філій быў выкліканы дух „бацькі народаў" Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна і ідэолага КПСС Міхаіла Андрэевіча Суслава. Абодва з'явіліся даволі хутка і былі беспамылкова пазнаны прысутнымі.

І. В. Сталін, пускаючы непаўторна салодкі дым са сваёй незабыўнай люлькі, падзякаваў за падарунак да дня нараджэння — гістарычную, як ён сказаў, перамогу камуністаў на выбарах у Дзяржлуму Расіі. А М. А. Суслаў выказаў здзіўленне, што ў Мінску да гэтага часу не выдадзены масавым тыражом працы выдатнага арганізатара і натхняльніка бліскучых ідэалагічных перамог У. П. Замяталіна.

На галоўнае пытанне ветэранаў „Што рабіць?" І. В. Сталін толькі загадкава ўсміхнуўся, а М. А. Суслаў параіў кіравацца рашэннямі адпаведных партыйных пленумаў. Якіх канкрэтна — сказаць ён не паспеў, бо ўслед за генералісімусам нечакана знік.

У час сеанса шырока ўжываліся айчынны спірытус і гарэлка „Крамлёўская".

*„Вожык"*

# Дыялогі

Адной жыдоўцы трэба было ехаць у Лапы. Падыходзіць яна да кандуктара ды пытае (а яўрэі крыху перакручвалі):

— Ці гэты цягнік пойдзе па Лапах?

Кандуктар нічога не адказаў. Яна, пакруціўшыся, зноў пытае:

— Ці гэты цягнік пойдзе на Лапах?

— Ты дурная баба, — адказвае кандуктар, — гэты поезд паедзе на калёсах, а не пойдзе на лапах.

* * *

Два сябры доўга не бачыліся. Спаткаўшыся, адзін з іх кажа другому:

— Ну і вырас ты: доўгі зрабіўся як месяц, а худы як выплата.

* * *

Паехалі польскія бізнесмены ў Кітай дагаварыцца наконт гандлю. Калі падпісалі адпаведныя дагаворы, кітайцы пачаставалі іх абедам. Былі там салодкія ласункі, чай ды мяса варанае і печанае. А палякі чулі, што ў Кітаі сабак ядзяць. Не ўмелі яны гаварыць па-кітайску дык на мігі пытаюць пра мяса:

— Ці гэта „гаў"?

А кітайцы галовамі круцяць ды адказваюць:

— Гэта не „гаў", толькі „мяў".

*Сабраў*
**Аляксандр Барташэвіч**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Мушу табе сказаць, што мой першы муж быў лепшы за цябе.

— Ведаю; твая маці заўсёды паўтарае, што ты выйшла за першага лепшага.

* * *

— Запамятай, — вучыць маці дачку перад шлюбам, — каб муж ніколі не бачыў цябе голай; заўсёды мусіш нешта на сабе мецць!

Пры канцы мядовага месяца муж не стрымоўвае і пытае:

— Скажы шчыра, ці ў тваёй сям'і былі нейкія псіхі або дэвіянты?

— А чаму пра гэта пытаеш?

— Бо, бачыш, нармальная жанчына, лягаючы з мужам спаць, не апранае з маньякальнай настойлівасцю на галаву саламяны капялюш.

* * *

Маладыя лягаюць да шлюбнай ночы. Муж цалуе жонку ды адварочваецца да яе плячыма. Яна шэпча:

— Каханы, мая мама перад сном мяне крыху песціла.

— Здурэла ты, ці што?! Не пабягу ж сярод ночы па тваю маму!

* * *

Малы Янка прыбягае да суседа:

— Тата прасіў каб вы пазычылі...

— Цукар, соль? — перабівае сусед.

— Не, штопар.

— Штопар? Скажы бацьку, што зараз сам прынясу.

* * *

У купэ вагона пасажыр звяртаецца да спадарожніцы:

— Скажыце свайму сыну, каб не перадражніваў мяне.

— Ванька, перастань паводзіць сябе быццам нейкі ідыёт!

* * *

— Ці гэта праўда, што прэзідэнт Валэнса плача падчас споведзі?

— Няма дзіву: толькі часу адно з Цыбуляй...



*Мал. Л. Разладава*

# Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Пішу табе і плачу. Як магла я так паддацца гэтаму чалавеку — подламу і нікчэмнаму, бязлітаснаму і жорсткаму...

Калі восем гадоў таму мы бралі шлюб, здавалася, што гэта будзе каханне на ўсё жыццё. Мы не разлучаліся ні на адзін момант, хіба што былі на працы. І ён, і я — з вышэйшай адукацыяй. Здавалася, што нават, калі б дзе што і здарылася з намі, дык вядома, што ўсё абыдзецца культурна.

А выйшла зусім інакш. Ведаеш, горад наш не малы, але і не такі вялікі, каб ніхто не заўважыў, што мужык цягаецца з іншымі. Штораз то адна сяброўка, то другая напаміналa мне, быццам бы няхочучы, што бачыць яго то тут, то там.

А я не верыла. Чаму? А не толькі таму, што магла б меркаваць, быццам маю зайздросных сяброўак. Гэтая іх „добразычлівасць" мне ўжо бокам вылазіла.

Не брала я ўсур'ёз таго, што яны пляткавалі, па іншай прычыне. Зразумей, што я не праходзіла спакойна каля іх уваг. Дома пыталася ў мужа, а хто гэта такая, чаму ты быў з ёю і г.д. Але, уяві сабе, ён нават да вялікага скандалу ніколі не дапускаў.

Найчасцей ён пачынаў смяяцца. Усё ўспрымаў лёгка, рагатаў да слёз. Калі яму было ад маіх слоў весела, дык чаму я мела быць маркотная?! Каб хацеў мяне кінуць, дык, думаю, не было б яму да смеху.

Часамі, калі брала мяне за жывое і не дапамагалі яго тлумачэнні, што ў рэстаране з паненкай ён быў „па службе", тады ён пачынаў мяне абцалоўваць, а яго пяшчоты канчаліся ў пасцелі. Як я магла тады падумаць, што толькі ўчора ён цалаваў іншую...

На другі дзень ён бег па кветкі. А часта мы ішлі тады ў добрую краму і куплялі мне нешта „экстра" з вопраткі. Бачыш сама, што я не магла сябе адчуваць у такой сітуацыі некаханай. І на злосць маім сяброўкам я паказвала ім свае пакупкі, як бы хочучы крыкнуць ім: „Сама глядзі, каго мой муж кахае!"

Умеў аплесці мяне, быццам ліяны. Асабліва быў чулліві ў некаторыя перыяды нашага жыцця, а менавіта тады, калі нешта даходзіла да маіх вушэй. А я, дурніца, зусім не разумела, што ён можа быць такі няшчыры ў адносінах да мяне.

І ... без скандалу адышоў. Пакінуў мяне адну, самотную, нават без дзіцяці. І ў маім сэрцы зрабілася страшэнная пустка. Маю прэтэнзіі да ўсяго свету, да людзей. Цяпер толькі я зразумела, што мае сяброўкі гаварылі мне праўду. А я верыла свайму манюку.

Баюся мужчын. Мне здаецца, што кожны з іх гатоў аплесці мяне сваёй мапой і давесці да паніжэння. Ці ёсць мужчыны звычайныя, шчырыя, скажы Сэрцайка?!

**Марыя**

Марыя! Ты цешылася, што ўзяла інтэлігентнага мужа, з вышэйшай адукацыяй, дык вось ён цябе інтэлігентна і аплёў сваімі шчупальцамі. Круціўся-круціўся, пакуль не збіраўся ўсур'ёз звязвацца з тымі ранейшымі дзяўчатамі. А калі трапіў на „сваю", дык ужо больш цябе не пераконваў, што кахае толькі цябе, а сяброўкі маняць. Ён проста адышоў без ніякіх тлумачэнняў, бо ўжо тлумачэнні не былі патрэбныя.

Ты яму наіўна верыла, а трэба было падумаць, ці не хоча ён часам тымі пацалункамі прыкрыць свой грэшны ўчынак.

Жанчына заўсёды павінна быць насцярожаная, калі яе муж пачынае, як ніколі, дагаджаць ёй.

Дзякуй Богу, што не ўсе мужчыны такія.

**Сэрцайка**